*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
27
ЛІСТАПАДА
1992 г.
№ 48 (3666)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 1 рубель.
(Па падпісцы — 10 кап.)





**«Не тыя вочы, не тыя бровы...»**

Фота А. КЛЕШЧУКА

# Кола Дзён

На мінулым тыдні газета «Известия» апублікавала інфармацыю агенцтва Франс Прэс аб тым, што прэм'ер-міністр Польшчы Х. Сухоцка падчас свайго візіту на Беларусь заявіла аб «занепакоенасці расійска-беларускім збліжэннем» у сувязі з падпісанымі раней у Маскве пагадненнямі паміж дзвюма дзяржавамі. Польскі ўрад быў гэтым незадаволены і абвінаваціў прэсу ў скажэнні сэнсу слоў прэм'ера. Аднак ФП адмовілася даваць абвяржэнне па той прычыне, што ў агенцтве прывыклі давяраць інфармацыі сваіх карэспандэнтаў. (У канкрэтным выпадку карэспандэнт атрымаў яе ад дарадцы польскага прэм'ера ў час перамоў у Мінску).

Характэрна, што сродкі масавай інфармацыі Беларусі вымушаны былі задаволіцца афіцыйным камюніке, з якога вынікала, што перамовы прайшлі зусім гладка. Такім чынам, можна было яшчэ раз пераканацца ў тым, як дазіраванне інфармацыі для прэсы вядзе да криватолкаў і рознага роду спекуляцый.

**20 ЛІСТАПАДА**

Завяршыўся візіт Старшыні СМ Беларусі В. Кебіча ў Малдову. Беларускі прэм'ер быў прыняты прэзідэнтам Малдовы М. Снегурам. Кіраўнікі ўрадаў дзвюх краін В. Кебіч і А. Сангелі падпісалі пагадненне аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве на 1993 год.

**21 ЛІСТАПАДА**

У Мінску прайшла другая канферэнцыя «Руху за сацыяльны прагрэс і справядлівасць». Яе ўдзельнікі сярод галоўных задач РСПС назвалі «аднаўленне адзінства савецкіх народаў», барацьбу супраць прыватнай уласнасці і прызнанне рускай мовы ў якасці афіцыйнай разам з беларускай.

**22 ЛІСТАПАДА**

На рынку аўтамашын «Лакаматыў» у Мінску, што працуе па выхадных, за адну з мадэляў «форда» прасілі 16 тысяч долараў (свайго роду рэкорд). «Запарожац» цягнуў усяго на 300 «зялёных». Зразумела, што з «драўлянымі» і «зайчыкамі» сюды не варта было й прыходзіць. На Беларускай фондавай біржы днямі за 100 расійскіх рублёў давалі 110 беларускіх.

**23 ЛІСТАПАДА**

У сталіцы Беларусі пачалася дабрачынная акцыя «Дзеячы культуры супраць СНІДу». Мэта акцыі, якая праводзіцца ў нас упершыню, — прыцягнуць увагу да страшнай хваробы, якая пагражае не толькі так званай «групе рызыкі», але здароўю грамадства ў цэлым.

**24 ЛІСТАПАДА**

Вядомыя амерыканскія сенатары С. Нан і Р. Лугар пабывалі з кароткім візітам на Беларусі і правялі перамовы з С. Шушкевічам і В. Кебічам. Закраналіся пытанні вываду з рэспублікі ядзернай зброі. Сенатары з'яўляюцца ініцыятарамі закона, паводле якога ЗША мусяць выдзеліць краінам СНД 750 мільёнаў долараў у справе вываду ядзернай зброі і кантролю за яе знішчэннем.

Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын падпісаў указ аб звальненні Я. Якаўлева з пасады старшыні тэлекампаніі «Астанкіна». Прычынай стала «няправільнае» з пункту погляду ўлад асвятленне падзей у Інгушэціі пасля ўвядзення надзвычайнага становішча. У гэтай сувязі не можа не ўзнікнуць і такое пытанне — наколькі незалежную палітыку будзе праводзіць у далейшым «Астанкіна» ў выпадку ператварэння гэтай тэлекампаніі ў міждзяржаўную, як гэта прадугледжана пагадненнямі ў Бішкеку?

**25 ЛІСТАПАДА**

Літоўскі сейм новага склікання на сваім першым пасяджэнні выбраў старшынёй А. Бразаўскаса. Па новай канстытуцыі ён будзе выконваць і абавязкі прэзідэнта Літвы да прэзідэнцкіх выбараў у рэспубліцы.

**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК**

# РАНЕЙ УСЁ БЫЛО ПРОСТА

На стэндах у фае каля ўвахода ў залу пасяджэнняў парламента можна знайсці шмат цікавага: лісты на адрас сесіі, афіцыйныя адказы, даведкі і г. д. Днямі ўвагу журналістаў прыцягнуў дакумент пад сціплай назвай «Экспрэс-інфармацыя». У гэтай ананімнай інфармацыі паведамляецца пра навукова-практычную канферэнцыю, арганізаваную нядаўна ў Мінску амерыканскім інстытутам Крыбла і БНФ. Сцвярджаецца, у прыватнасці, што «американские консультанты, анализируя опыт работы в других странах бывшего Союза и бывших социалистических странах, рассматривали возможные варианты политического поведения оппозиции для победы на... выборах», а таксама тактыку дзеянняў па рэферэндуме. А завяршаецца гэтая «аналітычная запіска» такім пасажам: «Американскими консультантами выделены группы населения (жители Чернобыльской зоны, военные, молодежь), воздействие на которые признается приоритетным в пропагандистско-агитационных акциях оппозиции».

Гэты дакумент, на мой погляд, варта было працытаваць, паколькі ён дае ўяўленне аб метадах палітычнай — тайнай і яўнай — барацьбы, якая вядзецца ў сценах парламента.

Што датычыцца непасрэдна сесіі, якая аднавіла сваю работу пасля перапынку, дык яна праходзіць досыць спакойна і размерана.

Праўда, на першым пасяджэнні, калі разглядалася «рознае», спакой быў на некаторы час парушаны выступленнем С. Навумчыка, які падаў у адстаўку з паста сакратара камісіі па сродках масавай інфармацыі. Сярод матываў гэтага неардынарнага кроку — той факт, што вось ужо некалькі сесій запар Вярхоўны Савет не ўключае ў павестку дня праект закона аб свабодзе інфармацыі. Акрамя таго, па словах дэпутата, рашэнне аб адхіленні рэферэндуму для яго, як члена апазіцыі, робіць немагчымым з маральных меркаванняў займаць пасаду ў афіцыйных структурах гэтага Вярхоўнага Савета.

Несумненна, значнай падзеяй стала прыняцце ў другім чытанні важных сацыяльных законаў аб працоўнай занятасці насельніцтва і аб калектыўных дагаворах і пагадненнях.

Такія паняцці як «наймальнік», «наёмны работнік», «наёмная праца» раней асацыіраваліся толькі з «праклятым капіталізмам». Цяпер, нарэшце, яны атрымалі сваё нармальнае, законнае афармленне ў адпаведнасці з рэаліямі жыцця.

Іх асэнсаванне, аднак, даецца нялёгка. Напрыклад, з калектыўнымі дагаворамі раней было вельмі проста: з аднаго боку адміністрацыя, з другога — прафсаюз. Але цяпер існуюць розныя прафсаюзы, часам іх арганізацыі дзейнічаюць побач на адным прадпрыемстве. У працоўнага калектыву, альбо нават яго часткі, цяпер ёсць права выбіраць, каму даверыць заключэнне дагавора. Федэрацыю прафсаюзаў Беларусі, аднак, гэта не задавальняла, і ад яе імя ўносіліся папраўкі, згодна з якімі павінен быў бы заключацца толькі агульны калектыўны дагавор. Але гэтыя папраўкі не прайшлі.

Як сказаў старшыня камісіі па сацыяльнай абароне А. Сасноў, які прадстаўляў законапраект, прыняты закон, магчыма, не пазбаўлены недахопаў. Але важна, што ўзяла верх ідэя дэманапалізацыі — у гэтым выпадку ў прафсаюзнай сферы.

**Віталь ТАРАС.**

# Што за «пераходным перыядам»?

## На гэтае пытанне спрабавалі адказаць удзельнікі міжнароднай канферэнцыі ў Мінску

Канферэнцыю «Эканамічныя рэформы ў посткамуністычным грамадстве: ліберальны выбар» арганізавалі Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных даследаванняў, Саюз прадпрымальнікаў Беларусі і Беларускі фонд падтрымкі прадпрымальнікаў.

На самым пачатку ў праграму канферэнцыі давялося ўносіць карэктывы, бо з-за спазнення транспарту не змаглі ў час прыехаць некаторыя выступаючыя з «блізкага замежжа». На думку старшыні Саюза прадпрымальнікаў У. Карагіна, гэты факт — штрых да эканамічнай сітуацыі, якая склалася сёння.

У сваім выступленні У. Карагін прывёў цікавыя звесткі. Сёння ў рэспубліцы існуюць каля 135 тысяч прыватных прадпрымальніцкіх структур. Але ў асноўным гэта прадпрыемствы малога бізнесу. 98 працэнтаў іх працуюць у непрыстасаваных памяшканнях і не адчуваюць упэўненасці ў заўтрашнім дні. (Праўда, ёсць і выключэнні. Грамадзянін Беларусі нехта Гары Астроўскі, які жыве зараз у Канадзе, стаў першым беларускім мільярдэрам і з'яўляецца заснавальнікам дзясяткаў сумесных прадпрыемстваў).

Пры гэтым 90 працэнтаў уласнасці ў рэспубліцы па-ранейшаму належаць дзяржаве. Рашэнне беларускага парламента прыпыніць прыватызацыю, на думку Карагіна, выглядае смешна, бо прыватызацыя фактычна яшчэ не пачыналася. Няма заканадаўчай базы для развіцця цывілізаванага бізнесу. Разам з тым, 80 працэнтаў звароту ў бізнесе праходзіць сёння праз розныя дзяржаўныя структуры. Вось дзе сапраўдная глеба для карупцыі і злоўжыванняў! Зразумела, што ў такіх умовах усе размовы пра эканамічныя рэформы выклікаюць у людзей, жыццёвы ўзровень якіх зніжаецца, толькі раздражненне. Разам з тым, працягваў дакладчык, вельмі часта забываюць, што беларускія прадпрымальнікі не з неба зваліліся і не прыехалі з Захаду — яны тут нарадзіліся, тут працавалі, як працавалі іх бацькі. Яны — такія самыя грамадзяне Беларусі, як і ўсе. Яны, дарэчы, плацяць высокія падаткі ў бюджэт дзяржавы. А што атрымліваецца, калі ўрад пачынае душыць прадпрымальніка высокімі стаўкамі падаткаў — напрыклад, на біржавую дзейнасць? Сёння на Беларусі амаль не засталося біржаў і ўсе здзелкі адбываюцца... нелегальна.

З выступленняў на канферэнцыі, у якой бралі ўдзел прадпрымальнікі і навукоўцы з розных краін, можна было зрабіць выснову, што эканамічныя працэсы ў рэспубліках СНД практычна аднолькавыя. На думку эканаміста з Масквы Б. Пінскера, які прысвяціў свой даклад аналізу рэформ у Расіі, асноўны эканамічны фактар зараз — інфляцыя, якая ў любы момант можа сарвацца ў гіперінфляцыю. Аднак «спакойная» інфляцыя таксама стрымлівае інвестыцыі, не дае стымулаў для развіцця вытворчасці. Сярод прычын інфляцыі вучоны назваў прэсінг на ўрад з боку працоўных калектываў (калі шахцёры, напрыклад, дабіваюцца шматразовага павышэння зарплаты), дырэктараў буйных прадпрыемстваў — у першую чаргу ВПК, і мясцовыя ўлады, якія спрабуюць выбіць асаблівыя прывілеі для сваіх рэгіёнаў.

Даволі рэзка крытыкаваў Б. Пінскер і эканамічную праграму апазіцыйнага «Грамадзянскага саюза». Дарэчы, погляды А. Вольскага і іншых лідэраў ГС маюць нямала прыхільнікаў і на Беларусі. Замарожванне цэн на асобныя тавары і зарплату, што, у прыватнасці, прапануе «прамысловая партыя», пры ўзмацненні ролі адміністрацыі і карных органаў прывядзе да татальнага дэфіцыту тавараў і яшчэ большых злоўжыванняў у гандлі. Такі пункт погляду эканаміста-рыначніка. А непазбежнае ўзмацненне рэпрэсій прывядзе ў канчатковым выніку да аднаўлення таталітарнай сістэмы, заснаванай на масавым тэроры.

Магчыма, маскоўскі прафесар наўмысна згусціў фарбы ў сваім прагнозе. Аднак, незалежна ад яго высноў, тэзіс аб тым, што дзяржаўнае рэгуляванне цэн вядзе да аднаўлення камуністычнай сістэмы, прагучаў і ў дакладзе Я.-К. Бялецкага — вядомага ліберальнага палітыка, экс-прэм'ера Польшчы. На вялікі жаль, сам ён не змог прыехаць у Мінск з-за таго, што трапіў у аварыю. Тэкст яго выступлення зачытаў дэпутат польскага сейма Д. Багуцкі.

У дакладзе Бялецкага гаварылася аб тым, што за апошнія некалькі год мы ўсе змаглі пераканацца, наколькі вялікая сіла інерцыі ў структур, што засталіся пасля крушэння камунізму, наколькі моцная яшчэ хвароба калектывізму (так ён выказаўся) у пасляталітарным грамадстве. Пад прыкрыццём фразы пра «пераходны перыяд» адбываюцца спробы ўмацаваць манаполію дзяржавы, умешвацца ў эканамічныя працэсы, кіраваць лёсамі людзей. Гэтым спробам процістаіць сёння павага да правоў асобы. Лібералізм — гэта не гаспадарчая дактрына, гэта вера ў самастойнасць чалавека, свабода прадпрымальніцкай дзейнасці, павага да прыватнай уласнасці як аднаго з галоўных правоў чалавека.

**В. Т.**

# На зямлі, пад зоркамі

У канцы 70-х гадоў у нашым тэатральна-мастацкім інстытуце закрылася кафедра, дзе рыхтавалі спецыялістаў па ткацтве, аздобе тканін і мадэляванні адзення. Яе перавялі ў Віцебск — бліжэй да вытворчасці. У выніку гэтай не вельмі прадуманай акцыі на дзесятак год прыпынілася, запаволілася развіццё мастацтва габелена на Беларусі. Зараз памылка выпраўлена, у Беларускай акадэміі мастацтваў аднаўляецца кафедра. Але дзесяць гадоў цяжар захавання традыцыі ляжаў на плячах выпускнікоў БДТМІ канца 70-х. Сярод іх — Вольга Дзёмкіна. Яе персанальная выстава (габелен, жывапіс, сцэнічны касцюм) — у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.



На вернісажы. Вольга Дзёмкіна і Алесь Разанаў.
Фота У. КРУКА.

Такое ўражанне, што на яе творчасць не ўплывае мода і палітычная кан'юнктура. Вольга і сёння распрацоўвае тую ж тэму, што хвалявала яе яшчэ ў студэнцкія часы. Але ж і тэма бязмежная — чалавек і Сусвет. Гледзячы на Вольгіны габелены, лёгка ўявіць нашых продкаў, што адчувалі зямлю і маліліся зоркам.

**В. БОГУШ.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Калі не інтэлігенцыя, дык хто?..

Дэбаты ў Вярхоўным Савеце аб Канстытуцыі і рэферэндуме спараджаюць у мяне нявер'е ў адраджэнне беларускага народа і нашай дзяржаўнасці. Ці можна дамагчыся гэтай мэты, калі вярхоўныя ўлады супраць? Мала патрыётаў у нашым парламенце.

З трыбуны сесіі мы чуем настальгію па былым, пахвалы брэжнеўскай канстытуцыі, знявагі нашых дзяржаўных сімвалаў, непрыкрытыя атакі на беларускую мову.

Патрабаваліся месяцы, каб знайсці прыдзіркі да ініцыятараў рэферэндуму і скампраметаваць Цэнтральную выбарчую камісію быццам бы дзеля строгага выканання закона. Але куды падзелася тая прынцыповасць, калі трэба выконваць зямельны кодэкс, змагацца з мафіяй, карупцыяй, з агульным бязладдзем, калі дэпутат у Вярхоўным Савеце націскае кнопку галасавання за калегу, якога няма ў зале? Хіба гэта не большы грэх, чым той, калі мужык падпісаўся за жонку за рэферэндум з яе згоды?

Праўду кажучы, я не за рэферэндум, бо ў наш час ён нічога станоўчага не даў бы.

Колькі часу прайшло ад прыняцця Закона аб мовах, а большасць дэпутатаў і прывітацца па-беларуску не хоча.

Надзейнай апорай суверэнітэту дзяржавы павінна быць армія. Але ж пакуль што няма ў нас беларускага войска і не ведаем, ці яно будзе. Таму можна зразумець настрой расійскіх генералаў і палкоўнікаў, якія ўзначальваюць «нашыя» палкі і дывізіі. Іх нельга вінаваціць. І хоць з неабходнасці яны прымуць прысягу на вернасць нашаму народу, патрыётамі Беларусі яны не стануць. Іх радзіма на Ўсходзе. Яны патрыёты Расіі і гэта накладае на іх абавязкі. А ў нас, у Беларусі, у іх добрае месца службы, пасады, кватэры, дачы. Яны добра пачуваюцца сярод талерантных беларусаў. Яны тут застануцца, калі выйдуць у запас ці адстаўку.

Гэтыя камандзіры не выхаваюць у сваіх падначаленых патрыятызму да Бацькаўшчыны — Беларусі, самі не загавораць па-беларуску, не пусцяць сваіх дзяцей і ўнукаў у беларускія школы. А афіцэры-беларусы, якія служаць у Расіі ці сярэдняй Азіі, не дачакаюцца вакансій у сваім беларускім войску.

І гэта не ўсё. Расійскія афіцэры і генералы беларускага войска пільна глядзяць, якія ветры дзьмуць з Усходу. Калі справы будуць ісці да рэанімацыі імперыі пад выглядам новага Саюза, яны цвёрда скажуць: «Обстановка изменилась. Мы прежде всего присягали на верность СССР», і выканаюць усё, чаго пажадае Усход.

**І яшчэ аб мове. Не выключана, што пад націскам парламенцкай большасці і русіфікаванай наменклатуры будзе зацверджана расійская мова ў якасці другой дзяржаўнай. Усё ідзе да гэтага. Фактычна расійская мова застаецца адзінай дзяржаўнай. Ніхто не будзе ўводзіць беларускую мову ў навучальных установах, у сферы абслугоўвання, на вытворчасці і ў дзяржаўных органах. Прыхільнікі беларускасці будуць аб'ектамі кпін і насмешак, атрымаюць ярлыкі нацыяналістаў. Гэта прывядзе да канчатковай русіфікацыі, заняпаду беларускай культуры і дзяржаўнасці.**

**Зразумела, знойдуцца грамадскія сілы, якія не будуць мірыцца з гэтым, што прывядзе да, мякка кажучы, канфліктнай сітуацыі.**

Ужо сёння зразумела, што цераз год-паўтара адбудуцца выбары ў ВС, а можа, і рэферэндум па асновах Канстытуцыі. Вялікае пытанне — ці зможа «сярэдні» грамадзянін рэспублікі разабрацца, за каго і за што яму галасаваць, каб забяспечыць дэмакратычныя пераўтварэнні і суверэнітэт дзяржавы? Працоўнаму люду (яго большасці), пенсіянерам і кухаркам цяпер не да вялікай палітыкі. Усе думкі аб хлебе надзённым. Яны ўсё ж вераць больш тым, у каго цяпер рэальная ўлада і хто можа больш паабяцаць. У правячай дзяржаўнай і гаспадарчай наменклатуры — улада, 90 працэнтаў прэсы, вопыт агітацыі і прапаганды, абяцанняў і падачак, пагроз і запалохванняў.

Я сам чуў у прыгарадным аўтобусе такі маналог аднаго з калгаснікаў:

— Не дай жа Бог, каб да ўлады прыйшлі гэтыя дэмакраты ды яшчэ ўвялі прыватную ўласнасць на зямлю. Ізноў будуць памешчыкі. Будуць прывязваць мужыкоў да слупа рукамі ўверх, як той Францыска рабоў у кіно «Рабыня Ізаўра».

Да выбараў трэба рыхтавацца ўжо цяпер. На мой погляд, вялікая і адказная роля за выхаванне ў людзей дэмакратычных поглядаў і нацыянальнай свядомасці, за суверэнітэт роднага краю ляжыць на творчай і працоўнай інтэлігенцыі. Апалітычнасць самай свядомай часткі народа — гэта здрада.

**Трэба, каб інтэлігенцыя аб'ядналася ў рухі і арганізацыі, якія ставяць сваёй мэтай адраджэнне краю і дэмакратычныя пераўтварэнні. Першым крокам павінна быць абарона роднай мовы. Інтэлігенцыя павінна быць гатовай вылучыць сваіх кандыдатаў на будучых выбарах.**

**Ужо цяпер творчая інтэлігенцыя павінна актыўна садзейнічаць у распрацоўцы і практычным укараненні дзяржаўнай сімволікі і атрыбутыкі ва ўстановах, войску, школах, міліцыі і г. д., без чаго няма аблічча незалежнай дзяржавы. Няма ў нас гімна. Патрэбны патрыятычныя песні, маршы, вершы і каб яны гучалі па радыё. Тэрмінова патрэбны новыя эмблемы, сцягі войска, міліцыі, беларускія маркі, паштоўкі, календары. У самы кароткі тэрмін беларускімі павінны стаць радыё і тэлебачанне.**

**Трэба наступальна ўздзейнічаць на ўлады, каб выконваўся Закон аб мовах.**

**У нашым друку, можа, меней трэба пісаць аб нашых бедах і цяжкасцях, аб тым, што і так кожнаму вядома. без аптымізму, без веры ў будучае, у свае сілы немагчыма пераадолець цяжкасці. У наш гістарычны час станаўлення дзяржавы павінен быць аптымізм.**

**Замест культу таго, што аджыло, але ж моцна трымаецца ў назвах фабрык, калгасаў, вуліц, патрэбны культ нашай слаўнай гісторыі, вялікіх людзей нашага краю, незалежнасці і свабоды, выхаванне ў людзей нацыянальнай годнасці і патрэбы «людзьмі звацца». Я за культ братэрства ўсіх народаў, якія насяляюць Беларусь, што з'яўляецца здабыткам нашай гісторыі і вялікай дадатнай рысай характару беларуса.**

Калі за вырашэнне гэтых вялікіх задач не возьмецца з вялікай адказнасцю і гарачым сэрцам наша інтэлігенцыя — пісьменнікі, кампазітары, мастакі, вучоныя, артысты, настаўнікі, медыкі, інжынеры, аграномы, эканамісты, духавенства, студэнты, — не будзе нам пашаны ў свеце, а незалежнасць наша застанецца толькі на паперы і то не надоўга.

**Эдуард АРОЧКА,**
**беларус, 1929 г. нараджэння, пенсіянер, па спецыяльнасці аграном-эканаміст (закончыў БСГА), працаваў доўга ў мясцовых саветах, а 21 год старшынёй калгаса.**
в. Міжэвічы Слонімскага р-на.

ЛІСТ З ВАРШАВЫ



Падчас дэманстрацыі.

## Дэманстрацыя каля Беларускага пасольства

**Рашэнне Вярхоўнай Рады Беларусі ў справе рэферэндуму не пакінула абыякавымі і беларусаў, што жывуць у Польшчы.**

**Сваю падтрымку БНФ выказалі сябры Беларускага Аб'яднання Студэнтаў у Польшчы. 10 лістапада г.г. яны правялі мірную дэманстрацыю перад пасольствам Рэспублікі Беларусь у Варшаве.**

**Прадстаўнік маніфестантаў, студэнт палітычных навук Варшаўскага універсітэта Я. Пракапюк заклікаў падпісаць адозву ў падтрымку рэферэндуму. У адозве, у прыватнасці, гаварылася: «Мы, удзельнікі мірнай дэманстрацыі, выступаем супраць парушэнняў правоў чалавека і Канстытуцыі Вярхоўнай Радай Беларусі».**

**Хаця польскі закон не прадбачвае ніякіх дазволаў, а толькі абавязак паведаміць аб дэманстрацыі ў мясцовыя ўлады, мітынг прымушаны быў закончыцца, паколькі паліцыя пачала пагражаць выкарыстаннем сілы. Дэманстранты разышліся. Але ў іх засталіся сумненні, ці сапраўды беларуская меншасць у Польшчы карыстаецца такімі самымі правамі, як польская большасць.**

**Юрка ГРЫГАРУК.**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ПРЭС НАД ПРЭСАЙ

Памятайце, як гады два таму, пасля прыняцця Закона СССР аб друку і сродках масавай інфармацыі, кіёскі «Саюздруку» стракацелі новымі рознакаляровымі выданнямі — газетамі і часопісамі? Ды нядоўга грымеў так званы інфармацыйны выбух. З больш як паўтысячы выданняў, зарэгістраваных Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, наўрад ці набярэцца дзесятак новых газет, якія б выходзілі рэгулярна. Абсалютная большасць рэдакцый, выпусціўшы адзін-два нумары, спынілі сваё існаванне. Чаму? Я ведаю адказ на гэтае пытанне, бо яшчэ да прыняцця Закона аб друку пайшоў на «ўласны хлеб», заснаваўшы газету «Частный детектив».

У Беларусі пакуль што не прыняты Закон аб друку. Але калі ён будзе падобны на саюзны, па якім мы жывём, лепшага здзеку са сродкаў масавай інфармацыі не прыдумаеш. На першы погляд, усё дэмакратычна. Хочаш выпускаць уласную газету — калі ласка. А на справе? Што рабіць прыватніку ці «групе таварышаў»?

Дапусцім, удалося знайсці спонсара (зрэшты, гэта значыць, страціць волю, бо ён ужо будзе дыктаваць свае ўмовы). Купіў паперу, дамовіўся з друкарняй. Выпусціў першы нумар газеты. І тут жа адчуеш на шыі пятлю, якую зацягвае падатковая інспекцыя.

Газета «Частный детектив» выходзіць раз у месяц. Тыраж — 300 тысяч экземпляраў. Мог быць і значна большы, бо мы яго штучна стрымліваем, не хапае сродкаў. Падлеткі-бізнесмены скупляюць газету ў кіёсках і з-пад крыса перапрадаюць у электрычках у два разы даражэй (рэдакцыя, дарэчы, да гэтага дачынення не мае). У цывілізаванай краіне пры такім попыце на выданне журналісты былі б мільянерамі. А мы ледзь зводзім канцы з канцамі і па два месяцы не можам атрымаць зарплату: на рахунку няма грошай. А што ўжо казаць пра іншыя нефармальныя выданні, якія такім попытам не карыстаюцца?

**У свой час я разам з юрыстам тры месяцы абіваў парогі падатковых інспекцый — ад раённай да рэспубліканскай. Абавязкова бралі з сабою Закон аб друку, бо ніводзін клерк яго ніколі не чытаў і не меў. У законе, у прыватнасці, сказана, што газета рэгіструецца ў Дзяржкамдруку (тады яшчэ міністэрства так называлася) і з моманту гэтай рэгістрацыі набывае юрыдычныя правы. Нас жа прымушалі заплаціць грошы і зарэгістравацца яшчэ раз: у райвыканкаме. У рэшце рэшт мы свайго дамагліся. Даказалі, што другой рэгістрацыі не трэба. Ад нас адчапіліся. Але ў іншых, мусіць, не было юрыстаў і не хапіла настойлівасці: усе выданні неўзабаве прайшлі «мясцовую» рэгістрацыю. І тут ужо фінансавыя органы пачалі не тое што паказваць, але і ківаць пальцам на нас: бач, маўляў, якія разумнікі, усе згадзіліся, а яны ўпарцяцца. Над нашай рэдакцыяй навісла пагроза «экзекуцыі». У адзіноце змагацца цяжка. Тым болей з амбіцыйнымі чыноўнікамі. І мы вымушаны былі «стаць на калені»: зарэгістравацца яшчэ раз і ў райвыканкаме.**

Здавалася б, толькі тае бяды: ну, аддаў ты яшчэ дзве тысячы рублёў, абы адчапіліся. Але не ўсё так проста. Менавіта адсюль бяруць выток усе праблемы газетчыкаў.

Справа ў тым, што райвыканкам рэгіструе ўжо не газету, а прадпрыемства. І ты поўнасцю ўзвальваеш на сябе жалезабетонны цяжар падаткаў. Між тым, ніякім законам гэта не прадугледжана.

Агульнавядома, што сёння сродкі масавай інфармацыі вялікага прыбытку не прыносяць. Хутчэй наадварот. Кошт паперы і паліграфічных паслуг вырас больш як у сто разоў, а цэны на выданні — прыкладна ў дзесяць. Павялічваць далей цану — страчваць чытачоў. А калі на цябе навальваюцца яшчэ і падаткі...

**У Казахстане падаткі [illegible] сродкі масавай інфар[illegible]нілі. Там зразумелі, што [illegible] ўвогуле застацца без уласных газет і часопісаў. Гарантую, што праз тры-чатыры гады на Беларусі не застанецца ніводнага незалежнага выдання, акрамя тых, што атрымліваюць шчодрую датацыю з дзяржаўнага бюджэту (і, натуральна, ніякіх падаткаў не плацяць, бо стратныя). Якія гэта газеты? Ды ўсё тыя ж былыя «партыйна-савецкія», якія проста памянялі свайго гаспадара: ЦК КПБ на Савет Міністраў.**

**Ніхто не пярэчыць, што датацыі атрымліваюць беларускамоўныя выданні: калі дбаць пра нацыянальнае адраджэнне, без гэтага абысціся немагчыма. Але за якую ласку з дзяржаўнай кармушкі сёрбаюць рускамоўныя газеты і часопісы?**

А мы яшчэ гаворым пра нейкі рынак і здаровую канкурэнцыю. У адных забіраюць у выглядзе падаткаў, другім аддаюць у выглядзе падачкі. У рэдакцыі «Частного детектива», напрыклад, працуе ўсяго дзесяць чалавек (у тым ліку і тэхнічныя супрацоўнікі). За першае паўгоддзе мы аддалі 1 млн. 422 500 рублёў розных падаткаў. А што засталося нам? З кожнага заробленага рубля — лічаныя капейкі.

**Як гэта ні дзіўна, але падатковы прэс душыць у першую чаргу беларускамоўныя выданні. У Міністэрстве інфармацыі часта чуеш: вось, маўляў, некаторыя газеты заявілі, што будуць выдавацца на дзвюх мовах, а выходзяць толькі на рускай. Гэта датычыць і «Частного детектива». Са свайго боку магу сказаць адно: ніколі ў мяне не было большага жадання, як выдаваць газету на беларускай мове. Тым болей, што ўсе супрацоўнікі нашай рэдакцыі некалі працавалі ў беларускамоўных выданнях. Мы так і планавалі: акрыяем, станем на ногі, заробім такую-сякую капейку і для беларускага чытача будзем рабіць газету на роднай мове. Але ж хіба нам дазволілі акрыяць? Чаму газета «7 дней» перайшла на рускую мову? Чаму «Народная газета» ўжывае двухмоўе? Упэўнены: зусім не для таго, каб задаволіць «і вашых, і нашых». Умовы дыктуе ўсё ж тая эканоміка. Пачнеш выдавацца толькі па-беларуску — страціш большасць падпісчыкаў.**

Што зробіш, адвучылі народ ад мовы...

Між тым, рускамоўныя газеты «Советская Белоруссия», «Белорусская нива» і іншыя атрымалі дзесяткі мільёнаў рублёў датацыі. Падумалася: не давайце мне датацый, выключыце толькі падатковы прэс, і я змагу выпускаць газету на беларускай мове.

А наша газета, між іншым, для прапаганды беларускай мовы магла б зрабіць вельмі шмат. Тэматыка ў нас спрыяльная, разлічана на масавага чытача. І «крымінальных» газет на роднай мове пакуль што няма. Дык чаму б не зрабіць разумна. «Частный детектив» разыходзіцца па ўсёй СНД. Хочаш не хочаш, а частку тыражу трэба друкаваць на рускай мове. Гэта прыбыткова. Дык аддайце мне гэты прыбытак! Хай сабе нават не ўвесь. Дазвольце мне хоць частку падатковых адлічэнняў, якія ідуць немаведама куды, пакідаць на пакрыццё страт беларускамоўнага «Прыватнага дэтэктыву». Я ж чужых грошай не прашу...

Але ж хто мяне, прыватніка, паслухае... Вунь і Міністэрства сувязі вырашыла пажывіцца на «буржуях». За дастаўку аднаго экземпляра газеты запатрабавала... 5 рублёў! Мы вымушаны былі адмовіцца ад падпіскі, хоць у рэдакцыю прыходзяць сотні лістоў ад чытачоў, якія жадаюць рэгулярна атрымліваць газету за любыя грошы.

Тое, што «бог няроўна дзеліць», мы адчулі на ўласнай скуры. Зрэшты, як і ўсе незалежныя выданні. Я не ведаю, каму цяпер належыць Дом друку. Але дакладна ведаю, што ў ягоных кабінетах рыхтуюцца да друку ўсё ж тыя былыя «партыйна-савецкія». Яны напладзілі і прыгрэлі каля сябе розныя камерцыйныя структуры, і ўціснуцца ў тыя шчыльныя рады немагчыма ніяк. У Маскве вунь пацяснілі «Праўду», далі памяшканні незалежным выданням. А ці паспрыяла наша Міністэрства інфармацыі хоць адной новай газеце ў набыцці закутка-кабінеціка? Мы, напрыклад, як калісь бальшавікі, рыхтуем сваю газету падвальна-падпольна.

І вось так у нас фарміруецца чацвёртая ўлада. А, можа, нехта акурат і жадае, каб яна не сфарміравалася?

**Алесь УСЕНЯ,**
**галоўны рэдактар газеты «Частный детектив»**

# КРАЙ СЛУЧАНСКІ— КРАЙ ПЕСЕННЫ



У гэтым, бадай, усе перакананы, хто цікавіцца роднай літаратурай. Ці ёсць яшчэ на Бацькаўшчыне падобны куточак, дзе, кажучы словамі Пімена Панчанкі, «нібы грыбы, здаўна растуць паэты»! З гэтых мясцін родам многія знакамітыя пісьменнікі, у дваццатыя гады тут плённа працавала філія «Маладняка». Нямала тут і сёння тых, што спрабуюць свае творчыя сілы. Групуюцца яны вакол літаратурнага аб'яднання «Случ».

Днямі ж прыйшла са Слуцка прыемная навіна. «Случ» выпусціла зборнік паэзіі «На крылах душы». Кніга атрымалася ладная, у цвёрдай вокладцы. Праз выданне парупіліся спонсары—Слуцкі камерцыйны цэнтр развіцця прадпрымальніцтва «Крышталь», якім кіруе Ігар Радзюк, і вытворча-камерцыйнае прадпрыемства «Случ», якое ўзначальвае Анатоль Шлег.

Прадстаўлена ў кнізе васемнаццаць аўтараў. Пішуць яны пра замілаванне бацькоўскай зямлёй, апяваюць яе прыгажосць, разважаюць аб нашым жыцці-быцці. Сталасцю разваг пазначаны творы старэйшын—Андрэя Лешчанкі, за плячыма якога восемдзесят з гакам гадоў, і былога настаўніка, пенсіянера Рыгора Родчанкі (ён выступае пад псеўданімам Рыгор Лінкор).

Кастусь Цыбульскі (ён укладальнік зборніка) друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, калектыўных зборніках «Вёсны», «Дзень паэзіі» і іншых. Асабіста перажытае ў лепшых яго вершах зліваецца з болем усяго народа: «Родзіць смутак мая ралля і аб літасці моліць бога. Дарагая мая зямля, ты, як сэрца маё, уся з болю».

Не навічок у літаратуры і Віктар Бародзіч, які выступае пераважна ў галіне сатыры і гумару, хоць не цураецца і вершаў «сур'ёзных». У іх — перажыванні ваеннага маленства і цяжкага пасляваеннага юнацтва, спроба разабрацца ў супярэчнасцях нашага складанага часу.

Увогуле ж розныя людзі спрабуюць свае сілы ў паэзіі. Таццяна Гаўдзель, Галіна Міхайдзюк, Алена Уласевіч, Анатоль Сітнікаў, Ларыса Каляда — педагогі; Валянціна Багамазава—калгасная сакратарка, Іван Жогла — галоўны механік, Вольга Караневіч і Любоў Салаўёва — тэхнолагі, Віктар Ганчароў — брокер, Віктар Шостак — вайсковец, Іван Простак — былы будаўнік, цяпер на пенсіі.

Не забываюць пра свае карані, вытокі і самыя маладыя Алена Богдан і Вячаслаў Корбут. Цяпер яны вучацца ў Мінску, студэнты універсітэта, але не забываюцца на родную «Случ», па-ранейшаму наведваюць яе пасяджэнні.

**А. М.**

# ЗРЭЗ МЯСЦОВАГА ЖЫЦЦЯ




Выхадам кніг на перыферыі сёння, бадай, нікога не здзівіш. Паўтараецца тое добрае, што было ў дваццатыя—трыццатыя гады, калі многія раённыя цэнтры мелі свае альманахі, літаратурныя дадаткі да мясцовых газет, а то і зборнікі сваіх аўтараў выпускалі. Але сёння пастаўчане тут, дайце веры, здзіўляюць: паспелі выдаць ужо два калектыўныя зборнікі «Рунь» (пра іх «ЛіМ» раней пісаў), а цяпер і ўласнааўтарскую кніжку.

Аўтар яе Алесь Касцень—вядомы ўжо і па рэспубліканскім друку — выступае звычайна як лірык ці публіцыст. На гэты раз ён выступае як сатырык і гумарыст. Тры сатырычныя паэмы аб'ядналь назвай «Правінцыялы». Сапраўды, перад намі зрэз мясцовага жыцця і, мабыць, героі гэтых твораў калі яшчэ не пазналі сябе, дык абавязкова пазнаюць, бо ў невялікім гарадку, як кажуць, усё навідавоку.

Зрэшты, можа надарыцца; што «знаёмцы» ў А. Касценя знойдуцца і ў іншых месцах: настолькі тыповыя яго персанажы і гэтак ўсебакова выпісаны. Нямала яшчэ сярод нас дзядуляў (будучых), хто ў наступным годзе зможа паспявадцца так, як гэта робіць персанаж паэмы «Ля духмянае ракі». Нездарма аўтар даў твору падзагаловак «Успамін з будучыні». Будзе так, абавязкова будзе! І пойдзе гамонка пра тое, якімі слаўнымі былі калгасы, як добра ў іх елася-пілося начальству і адначасова нічога імі не рабілася.

У паэме «Народны паслугач» — герой адпаведнай кагорты. Ён больш настырны за папярэдняга і ўмее нос трымаць па ветру. Такі не прапаў пры камуністах і не прападзе пры дэмакратах.

Нарэшце, паэма «Два крыжы». На гэты раз А. Касцень закранае няпростыя пытанні рэлігіі, дзе таксама ёсць ахвочыя адлучыць народ ад яго мовы, а ў выніку аказваецца, што прадстаўнікі аднаго і таго ж народа з-за прыналежнасці да неаднолькавых канфесій аказваюцца па розныя бакі жыццёвых «барыкад».

Той, хто хоча набыць зборнік сатырычных паэм А. Касценя, зможа зрабіць гэта ў кіёску Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў Мінску на праспекце, які таксама носіць імя нашага першадрукара.

**В. СЯРОДКА.**

# ПРАГНЕ ВОЛІ ПАКУТНАЯ ДУША...

Не забыліся, шаноўныя чытачы, якія асноўныя матывы былі ў нашай паэзіі гэтак гадоў дзесяць, а то і меней назад? Але, але!.. Многія аўтары, асабліва найбольш увішныя, ці не навыперадкі спяшаліся праспяваць оду роднай партыі, уславіць дружбу савецкіх народаў, у тым ці іншым варыянце засведчыць, што «мой адрес не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз». А цяпер якія тэмы вабяць колішніх трубадураў? Цяпер яны дружна бэсцяць... тую самую партыю, не прамінаюць выпадку прайсціся па ГКЧП, выкрыюць сталіністаў учарашніх і сённяшніх.

Зрэшты, мо гэта не выклікала пярэчання, калі б, з аднаго боку, сведчыла аб шчырасці перажыванняў, а з другога — было пазначана пячаткай сапраўднага таленту. Могуць жа ў чалавека памяняцца сімпатыі і антыпатыі, ды і ў рэшце рэшт, дажылі мы і да чаканага плюралізму. Горш, калі такія метамарфозы — звычайнае флюгерства. Там жа, дзе флюгерства, пра высокія матэрыі (у дадзеным выпадку пра майстэрства) наўрад ці думаецца. Галоўнае — абагнаць іншых, паспець першаму праспяваць новую песню.

Не кажу, што падобнымі творамі «забіты» паэтычныя старонкі кастрычніцкіх нумароў часопісаў. Аднак жа дэвальвацыя слова па-ранейшаму адчувальная, новая тэматычная падсветка не зменшыла яе. Але хочацца сказаць і пра іншае. Праз усю гэтую шматслойнасць, крыклівасць у «духу часу» прабіваюцца і сапраўдныя паэтычныя парасткі. І не так важна, пра што піша паэт. Важней тое (я тут, зразумела, нічога новага не скажу), як ён ставіцца да тэмы, наколькі праўдзіва прапускае яе праз душу і сэрца.

Вось нізка вершаў В. Шніпа ў «Маладосці». Запеўны верш надзвіва хораша гаворыць аб повязі чалавека з вечнасцю і разам з тым — з днём сённяшнім. У ім — і цяперашняе, і тое, што прыйдзе пасля (калі яно прыйдзе туды, дзе душа пазбавіцца матэрыяльнай абалонкі):

**Абарвана лістота вятрамі,**
**І трава пажаўцела даўно,**
**І чарнеюць нябёсы над намі,**
**Як разбітае ў Храме акно.**

«І душа да нябёсаў імкнецца, да бясконцай спадманнай цішы», сягае туды, шукаючы адказу на пытанні, якія нязменна стаяць перад кожным пакаленнем. Стаяць, а адказу на іх няма. А, можа, недзе ён і ёсць, ды мы яшчэ «не дараслі», каб знайсці яго, адшукаць урэшце паразуменне з вечнасцю. Хацелася б толькі, каб і В. Шніп (і іншыя творцы), у чыёй паэзіі сёння такія відавочныя гэтыя матывы, не злоўжывалі зваротам да Бога. У адным, другім вершы добра, а калі з твора ў твор?

Людміла Рублеўская (падборка яе вершаў таксама змешчана ў «Маладосці») працягвае асвойваць гістарычную тэматыку. «Лясныя балады», верш «Ноч перад дваБоем» пазначаны аўтарскай чуйнасцю на слова, здольнасцю па-свойму асэнсаваць многае з таго, што даўно чакала сваёй гаворкі. Адначасова Л. Рублеўская (ёй гэта ўвогуле характэрна) асэнсоўвае ўнутраны свет гараджанкі ад нараджэння, яе лірычная гераіня — дзіця гмахаў, каменячосаў, але ж яна — і свайго роду дзіця прыроды, да якой пастаянна імкнецца.

Сталасцю паэтычнага светабачання радуе К. Камейша («Полымя»). Ёсць у яго і творы, на якіх відавочна пячатка часу («Гародня. Мытня. 1991», «Дэманстрацыя», «Неафіцыйная частка» і іншыя). Ды і яны з'явіліся, так сказаць, не дзеля «птушачкі» ў творчай біяграфіі аўтара: маўляў, і я не горшы за іншых, таксама адчуваю «пульс» жыцця. Яны напісаны як душэўная патрэба разабрацца ў супярэчлівым і складаным часе, пераацаніць некаторыя маральныя каштоўнасці. Але, па шчырасці, усё ж найбольш уразіў мяне верш «Маня». У нечым традыцыйны, хоць і традыцыйнасць гэтую наўрад ці пусцілі б некалькі гадоў назад у друк, папракнулі б паэта за нетыповасць «яго» Мані». Дайце веры: са спагадай піша пра нейкую прадаўшчыцу, якая трапіла «на Салаўкі». Бестурботна пачыналася жыццё дзяўчыны, а хіба могуць безабаронныя перад ім выстаяць? Згарэла «ноччу веснавой» крама, пачаліся для Мані іншыя дарогі. Перайначылася, перавярнулася яе жыццё. Ды не толькі яе адной: «А за лесам недзе, на гасцінцы, дзе чаромха вэлюма цвіла, вырвалася з рук тваіх хусцінка і ка мне ў рукі паплыла».

Праўдзіва, пераканаўча, да болю ўражліва:

**Знікла недзе Маня за лясамі,**
**А хусцінка тая па вясне**
**Праляціць над вёскаю часамі,**
**Толькі ў рукі не даецца мне.**

Здавалася б, добра ведаў паэта, а вось як нечакана адкрыўся яго талент новымі, дагэтуль невядомымі гранямі.

Тое ж можна сказаць і пра Л. Дайнеку не дзеля таго, каб яго новага фантастычнага рамана «Чалавек з брыльянтавым сэрцам» (надрукаваны ў дзевятым і дзесятым нумарах «Маладосці»). Прачытваецца ён, як кажуць, на адным дыханні, як дэтэктыў. Але піша Л. Дайнека не дзеля таго, каб спатоліць чытацкае- жаданне па нечым незвычайным. У рамане ўзнімаюцца важныя праблемы выжывання чалавецтва. Робіцца гэта на прыкладзе грамадства будучага. Дзеянне адбываецца «на 223 годзе Вялікай Эры Плюралізму». Зямля ўступае ў сутыкненне з так званай Старой Цывілізацыяй. Дзе ратунак? Як выжыць? Сюжэт закручаны дай Бог, але ж поруч з гэтым — і глыбокі псіхалагізм, што дазваляе паверыць — так можа быць! Такое магчыма, калі чалавецтва і надалей будзе развівацца, адрываючыся ад прыроды, ад вытокаў, ад сваіх каранёў.

У аповесці А. Казлова «Адкуль з'яўляюцца яны?...» (таксама «Маладосць») суседнічаюць элементы рэальнага і фантастычнага. Як і раней (прыгадаем яго апавяданні), пісьменнік схільны ўводзіць у сюжэтную канву розныя жахі. За ўсім за гэтым — тая самая некамунікабельнасць чалавека, пра якую мы так часта гаворым і ў даследаванні якой шырокае поле дзейнасці для кожнага аўтара.

Апавяданні А. Кажадуба «Святы калодзеж» і «Вялікдзень» («Полымя») прыцягваюць паказам хуткаплыннасці часу. С. Дубовік («Маладосць») у свой час служыў ваенным карэспандэнтам у Афганістане. Водгулле пабачанага, перажытага ў яго апавяданнях «Груз «200», «Крывавыя цюльпаны», «Інтэрнацыянальнае» выхаванне» і іншых. Часам дакументалізм як бы «ціснe» на аўтара, прыкоўвае яго да факта, і ўсё ж ёсць спадзеў, што з С. Дубовіка вырасце неблагі празаік.

Пераасэнсаваннем мінулага, заглыбленнем у сучаснасць пазначана публіцыстыка. У «Нёмане» пад рубрыкай «Запіскі. Успаміны. Дакументы» апублікаваны пачатак артыкула Р. Платонава і М. Сташкевіча «Цярністы шлях да свабоды». Аўтары вяртаюцца да праблем станаўлення беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Гаворка, можна сказаць, невыпадковая. Пра гэта, дарэчы, згадваецца і ва ўступе, прытым самакрытычна: «...ідэалагічныя міфы і шоры не дазвалялі даследчыкам рухацца наперад. Аўтары дадзенай публікацыі, як і іншыя гісторыкі, спаўна адчулі гэта на сабе, аддаўшы даніну духу бязмежна ідэалізаванага мінулага». Цяпер жа іншыя крайнасці, а між іншым неабходна праўда і толькі праўда. Да яе і імкнуцца Р. Платонаў і М. Сташкевіч, звяртаючыся да малавядомых, а то і зусім невядомых дакументаў.




**КАСТРЫЧНІК**

У «Полымі» не пакідае абыякавым публікацыя «Прашу мяне расстраляць». Гэта — уступны артыкул Л. Смілавіцкага і лісты з турмы аднаго са сталінскіх нявольнікаў, рэчыцкага настаўніка Васіля Лявонавіча Штыхава, бацькі доктара гістарычных навук Г. Штыхава. Як кажуць, каментарыі лішнія. Трэба ўсё гэта чытаць, каб адчуць часцінку народнага гора — народнага болю. Ім напоўнены і развагі Р. Барадуліна пра Л. Геніюш «Унучка Францішка Скарыны, альбо Зэк № 0-287». Гэта — яшчэ адно набліжэнне да самай пакутнай нашай Паэтэсы, пранікненне ў свет, у якім яна жыла, перадольваючы пакуты, неразуменне, пазбаўляючыся Страху ў імя Жыцця.

Разглядаючы жанрава-стылёвыя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратуры 20—30-х гадоў («Полымя», «Дасягнутае і страчанае»), Д. Бугаёў звяртаецца да творчасці Рыгора Мурашкі і Міхася Зарэцкага, па-новаму прачытваючы ж, акцэнтуючы ўвагу на тых момантах, якія раней заставаліся па-за ўвагай даследчыкаў ці падаваліся, вытлумачваліся ў скажоным выглядзе.

Гісторыя літаратуры — гэта і сведчанні М. Сяднёва і А. Калубовіча пра Янку Купалу і Якуба Коласа (публікацыя Б. Сачанкі ў «Маладосці»). Успаміны А. Калубовіча «Янка Купала і Якуб Колас» у перакладзе на рускую мову прапаноўвае і «Нёман». У ім жа згадкі І. Рытар "Якуб Колас". Творы Т. Лады-Заблоцкага — у «Полымі» (прадмова і пераклад з польскай К. Гадыцкага).

Разнастайнасцю матэрыялаў вызначаецца «Беларусь». Адно невядома, калі прыйдзе да чытача — тэхнічныя няўвязкі...

Працягваецца мастацкі летапіс нашай хуткаплыннай сучаснасці. Падставы для роздуму, аналізу. А душа, мовячы словамі В. Шніпа, прагне волі. Ёй хочацца пэўнасці, пазбаўлення ад мітуслівасці. Ды воля ніколі лёгка не давалася. Да яе шлях ляжаў (і ляжыць цяпер) праз пераадоленне і таго, што пазней падасца выпадковым, нявартым увагі, і праз тыя цярністыя будні, якія на адлегласці набудуць сваю адметнасць і каштоўнасць. У гэтым жа і заключаецца жыццё.

**А. АН-ЕВІЧ.**

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



# ШТО ЧАЛАВЕК БЕЗ ЛЮДСКАСЦІ І ВЕРЫ?..

●

Прачынаецца дзень,
прадзірае заспаныя вочы,
Намагаецца сну адгалоскі прыпомніць,
аднак
З недаробленых спраў ні адна
пачакаць не ахвочая,
Нецярплівыя ўсе,
як гатовы да скачкі рысак.

Прачынаецца дзень, пазяхае,
адсоўвае штору,
Памарудзіць крыху, а затым
з галавой патане
У людскім, гарадскім,
калгатнёю успененым моры,
Дзе закінуты сеці
і дрэмлюць пачвары на дне.

●

Пакуль грахі не выгараць датла,
Палаць агню
і звыкла пахнуць серы.
Што чалавек без людскасці і веры!
Без зерня колас, лямпа без святла.

Задуманы няблага,
за вякі
Расчараваў тварца неверагодна,
Гатовы павярнуць куды заўгодна
І ўзяць падачку з бруднае рукі.

Да прорвы ідучы — за крокам крок,
Грашыць самазабыўна і заўзята.
Не адчувае, што пячэ у пяты —
Ён для сябе самога не прарок.

А ўжо для іншых...
Што тут гаварыць!
Шкадуй ці бойся — ён і не прыкмеціць.
Прадасць каханне, вырадка прывеціць
І ад сівухі да Суда згарыць.

●

Хто звёў на дарожцы
Дабро са Злом,
Хто знае наперад
усе нашы крокі,
Той і мяне спрабуе на злом —
Есць маю сілу,
п'е мае сокі.

Хто веліч сваю дэманструе
спрадвек
(Бо ўсемагутны,
адзіны
і вечны),
Той хоць і вымучыць, як чалавек,
Ды безнадзейна
бесчалавечны.

Дубулты, 1989 г.

●

Каштана сяміпалая далонь
Варушыць валасы
і гладзіць скронь.

Плячо маё даверліва кранае.
Выказвае прыхільнасць!
Спачувае!

Мо ведае: спынілася на міг,
Пакуль разгону морак не аціх.

Адбілася на момант ад патоку,
І раптам ён, каштан,
адкрыўся зроку.

Давай жа пагаворым тэт-а-тэт.
Каснаязыччам захліснуўся свет

І сам сябе не слухае даўно ўжо.
Даруй і адратуй нас, Божа.

Дай сілу і жаданне далей жыць
Ды час ад часу
з дрэвам гаманіць.

## Паміж явай і сном

Паміж явай і сном
каляровыя здані раяцца,
Паміж явай і сном
маіх мрояў плыве карабель.

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ



Алесь Астраўцоў нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. У 1987 годзе скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў музеі Максіма Багдановіча. Апавяданні друкаваліся ў часопісе «Маладосць».

Упершыню ў «ЛіМе»

## Я ХАЦЕЎ БЫ ПАМЕРЦІ ПАД АДЗІНОКІМ ДРЭВАМ...

### Скульптары

Мужчына ў матацыклетных акулярах і рэспіратары стаяў на каленях перад брылай белага мармуру з цяжкім пнеўматычным наждаком у руках, які з рыкам угрызаўся ў моцнае, але крохкае цела каменя. Мармуровы пыл разлятаўся ў розныя бакі з-пад карундавага кола. Паступова ў безабрыснай глыбе вырысоўвалася галава маленькага хлопчыка. Побач на падстаўцы стаяў пластылінавы эскіз.

Я азірнуўся. Вакол мяне ўроскід ляжалі надмагіллі розных памераў, зусім просценькія і вельмі шыкоўныя. Вакол іх разважліва хадзілі мужчыны ў брудных камбінезонах. Я пачуўся ніякавата. Падумалася: адна рэч есці смажаніну, ды зусім іншая — назіраць, як забіваюць жывёліну.

«А колькі помнік каштуе?» — «Цяпер дарага, — адказаў брыгадзір з шырокай усмешкай, але хітрымі вачыма. — Ад трох тысяч і да дзесяці».

### Фотаздымак

Ленка здзіўляла ўсіх сваёй непасрэднасцю. Адразу пасля знаёмства яна запісвала цябе ў шэраг сваіх сяброў і патрабавала ўзаемнасці. Дома ў яе заўсёды быў вэрхал, гучала музыка і, што дзіўна, гэта прыносіла толькі радасць яе надзвычай камунікабельным бацькам. Але за вочы з яе пасміхаліся і называлі дурнічкай.

Я яе амаль не ведаў, калі яна падпісала мне свой фотаздымак: «Міламу сябру».

Ленка загінула ў аўтакатастрофе, калі паехала да сяброўкі ў Паставы. Эпілептык-шафёр урэзаўся на самазвале ў аўтобус. Яна памерла адразу. Здымак на помнік папрасілі ў мяне, але потым вярнулі, бо знайшлі лепшы.

На пахаванне я не паехаў, бо не ведаў, як буду глядзець на яе. Я зрэдку, як і іншыя, дазваляў сабе пакпіць з Ленкі.

Кажуць, што амаль усе плакалі.

Пасля пахавання са мною перастаў размаўляць мой былы сябра. Ён пару разоў спаў з ёю, але калі Ленкі не было побач, інакш як б... яе не называў.

Мы дагэтуль не вітаемся.

А ў дзень пахавання я з інстытуцкімі сябрамі паехаў на лецішча, дзе мы ўсю ноч пілі гарэлку, а пасля танчылі п'яныя ў лесе.

### Чырвоная зорка

Дзядзька Вадзім быў адстаўным маёрам. У Менск ён пераехаў пасля дэмбелю амаль выпадкова і замкнёна жыў разам з дарослым сынам. Памёр ён ад цяжкой хваробы. Баяліся, што не будзе нават каму вынесці труну. Таму на пахаванне я прыйшоў з сябрам, які дзядзьку Вадзіма ўвогуле не ведаў. Але своечасова з'явіўся малады капітан з ваенкамата з узводам жаўнераў. Ён тактоўна і ўпэўнена ўзяўся кіраваць рытуалам. Я быў яму страшэнна ўдзячны, бо перастаў адчуваць тужлівую бездапаможнасць.

Хавалі на новых могілках сярод поля. Раней тут было балота, але потым бульдозерамі назграбалі гліны. Падышоў нейкі службовец у брудных нагавіцах і зялёнай афіцэрскай кашулі, з замашкамі прафесійнага вясельнага маршалка. Ён запісаў на паперку прозвішча таго, хто будзе выступаць, і паказаў падрыхтаваную яміну. Потым прыцягнуў шэрую лаву і загадаў жаўнерам паставіць на яе труну. Сын дзядзькі Вадзіма і жонка брата стаялі амаль непрытомныя. Іх падтрымлівалі сваякі і капітан-вайсковец.

Падглядваючы ў паперку, мужчына абвясціў жалобны мітынг. Сухенькі пенсіянер-аднапалчанін нешта разгублена сказаў пра доўг перад партыяй і народам. Аднекуль прыцягнуліся чатыры нягеглыя музыкі з вялікім барабанам і трубамі. Але нечакана пад'ехалі два ваенныя «Уралы», і побач з труною прамаршаваў вайсковы аркестр з чырвоным сцягам наперадзе. Жаўнеры стрэлілі халастымі ў паветра.

Побач хавалі старэнькую бабулю нейкія сектанты. Яе васковы твар быў незвычайнага жоўтага колеру.

Труну зачынілі на зашчапкі і апусцілі ў дол. Магільшчыкі пачалі рыдлёўкамі кідаць зямлю. Яна глуха білася аб вечка.

Я спалохаўся, каб сваякі дзядзькі зусім не страцілі прытомнасць. Але стаялі яны з відочнай палёгкай. Тут я ўпершыню зразумеў, што значыць «зямля возьме сваё».

Мужчыны спрытна спланавалі ўзгорак, падбілі схілы і ўтыркнулі просценькі драўляны слупок з бляшанай зоркай наверсе, які ўсе чамусьці называлі «тумбачкай». Унізе паставілі фотаздымак, загорнуты ў цэлафан.

Пазней я даведаўся, што сын дзядзькі Вадзіма адразу прадаў новенькую бацькаву «васьмёрку» за пачатковы кошт практычна незнаёмым людзям. Я спазніўся, пра што потым доўга шкадаваў.

### Манькаўка-пічыўка

У вёсцы маіх бацькоў я не быў дванаццаць гадоў. Калі, нарэшце, прыехаў, цётка Марыя, якая вельмі любіла мяне малога, сказала, што яшчэ праз дванаццаць гадоў я, пэўна, не застану яе ў жывых. Я моўчкі стаяў і саромеўся свайго росту, бо быў амаль напалову вышэйшы за яе.

За вячэрай я пачаў распытваць пра сваіх продкаў. Цётка амаль нічога не памятала, але, усцешаная маёй цікаўнасцю, намагалася што-небудзь узгадаць.

На наступны дзень мы пайшлі на могілкі. Ля брамкі я ўбачыў магілу маіх маленькіх пляменнікаў, якія згарэлі разам з хатай. Два невялічкія крыжы трымаліся на адной металічнай трубе. «А продкі дзе пахаваны?» — «Там», — цётка паказала наперад. Я ўбачыў некалькі паросլых імхом купінак і кавалкі спарахнелых дошак. Побач стаяла разламаная каплічка, на якой цудам захаваўся абразок з выявай нейкага святога. Яшчэ пры маёй памяці тут былі павязаныя ручнікі, а партрэцікі, усе да аднаго, месціліся пад шклом.

Мае продкі заснавалі гэтую вёску ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Прыйшлі яны з Вярыгаў з-за Проні, і цяпер я хоць ведаю іх імёны.

### Дрэва

Калі я еду ў аўтобусе — люблю глядзець у акно. Заўсёды позіркам шукаю дрэвы, якія самотна стаяць сярод поля. Такіх амаль не засталося, бо ўздоўж дарогі ўсё ўзарана. Тыя, што зберагліся, памятаю нават дзе. Ёсць каля Шчучына, ёсць перад Валожынам, злева ад шашы (альбо справа, гледзячы ў які бок ехаць). Мне хочацца выйсці, падысці да дрэва і пасядзець пад ім, прытуліўшыся галавой да шурпатае кары. Але аўтобус заўсёды шпарка ідзе наперад, і я, зазвычай, да паловы дарогі думаю пра тое, што пакінуў, а другую палову — што мяне чакае наперадзе.

Зазвычай. Але не заўсёды...

## ЛІСТ

«Дзень добры, мілая мая! Зноў пішу табе, і зноў не ведаю, ці прачытаеш ты калі гэтыя радкі. Амаль усе папярэднія лісты я цягаў у кішэні, пакуль яны не пазаціраліся да лахманоў. Тады я іх спаліў. Але гэта не страшна, бо памятаю кожнае слова з усяго, што напісаў табе. Аднойчы ноччу прачнуўся ў жаху — падалося, быццам забыў адзін сказ. Але сеў, супакоіўся і пракруціў усё ў галаве. Не, памятаю! Адразу заснуў шчаслівы...»

Мажная кабеціна, якая выпісвала мне пропуск, добразычліва параіла:

— Аднаму па зоне лепш не хадзіць!

— А што, гэта небяспечна?

Яна паглядзела на мяне паўз акуляры:

— Нават кантралёраў заложнікамі бяруць, а вас дык пагатоў.

Я ўявіў зэкаў, якія шыхтамі ходзяць пад канвоем, і не зразумеў, якая ад іх можа быць пагроза. Але я памыляўся.

Кантралёр сеў у кабіну майго грузавіка, а мне прыйшлося ісці пешшу. Насупраць адміністратыўнага корпуса шпацыраваў франт-капітан у хромавых ботах, з рацыяй і пісталетам на папрузе. На мяне ён нават не звярнуў увагі. Я зразумеў, што не дужа мяне кінуцца ратаваць, калі што.

Зэкі ж хадзілі зусім вольна, нават кіравалі трактарамі і машынамі. Усе яны мелі аднолькавы, варты жалю выгляд. Чорнае шарсцінне на твары, чорная шапка, чорная ватоўка, чорныя нагавіцы, чорныя чаравікі. Усё адзенне на два памеры меншае, чым трэба. Абутак наадварот — завялікі.

— А якога рэжыму зона? — спытаў я ў кантралёра.

— Узмоцненага, — адказаў той і пасміхнуўся.

Пакуль я шукаў нарыхтоўчы цэх, пастаянна адчуваў на сабе цяжкія позіркі. Іх можна зразумець. У сваіх белых красоўках, джынсах і скураной куртцы я выглядаў не толькі як іншародны, але і як раздражняльны аб'ект. Страху не было, хаця і адчуваў сябе вельмі няўтульна.

«...Сон... Божа, як яго тут чакаеш! Хочацца яго расцягнуць, смакаваць... Але часцей засынаеш адразу, як у глыбокую чорную студню трапляеш. Тады, на жаль, адразу пад'ём, і зноў пачынаецца гэты жах. Днём пастаянна думаю пра цябе. Цягаю дошкі — думаю пра цябе. Стаю ля вісклівага станка — думаю пра цябе. Іду ў шыхце — думаю пра цябе...

Бывае, даходжу да здранцвення. Тады не разумею, што кажу, не бачу, да каго звяртаюся. Мабыць, пачынаю вар'яцець. У такія дні, даруй, дарагая, сілай прымушаю сябе думаць пра работу, спрабую засяродзіцца на тым, што раблю...»

Шукаю майстра. Кантора пустая. Нідзе нікога, і толькі цяжкія позіркі. Іду па нейкіх рэйках, вось і патрэбныя мне сушыльні. Пуста. Калі зачыняць у такой камеры, не хутка знойдуць.

А як толькі устану —
садзіцца адразу на мель:
Супыняецца рух
і няма больш на што
спадзявацца.

У салодкага снення
ні межаў няма, ні падставы
Якойсьці грунтоўнай —
само сябе жывіць падчас.

Ды калі міражы
так ахвотна наведваюць нас,
Значыць, ёсць у адбітка
рэальная недзе выява.

●

Штосьці важнае я не сказала,
Калі ты адыходзіў.
Несказаная думка лунала
Угары, пры народзе.

За табою плыла аблачынкай
Без вагі і абрысаў.
Даганяла, нібыта дзяўчынка,
Невідочная знізу.

І было ёй нядобра ды скрушна
Без выявы уласнай.
Куды лепей быць
вужам ці крушняй,
Чымся думкай няшчаснай...

---

Нечакана светлы калідор, шкляныя дзверы, за імі стол і тры зэкі, якія п'юць гарбату. Спыняюся і не ведаю, што рабіць. Глядзім адзін на аднаго праз шкло. Устае самы малады ў чорным будаўнічым шлеме з белым матузком на патыліцы.

— Табе чаго?

— Я шукаю майстра.

Ён моўчкі ідзе ў цёмны калідор. Стаю разгублены, а потым крочу за ім. Зноў тыя ж сушыльні. Ён паказвае пальцам на амаль незаўважныя ў цемры дзверы. Заходжу. У прапаршчыка ў зялёным бушлаце нечакана добрыя, чалавечыя вочы.

З выпісанымі паперкамі іду ў бухгалтэрыю. Тая ж вуліца, той жа капітан з рацыяй. І тыя ж цяжкія позіркі.

«...Пасля такіх дзён я не сплю. Разумееш, гэта жахліва — ляжыш і не спіш усю ноч. Спрабую лічыць, думаць пра што заўгодна, але нічога не дапамагае. Перад вачыма—ты. Ты не чакаеш мяне. Так, я не маю на гэта права. Але! Але... Божа, як цяжка! Ты ж была маёй, толькі маёй. А цяпер табою валодае нехта іншы. Калі я ўяўляю, як ён, той—другі, цалуе, распранае цябе... Даруй...»

Калі я вярнуўся з накладнымі, зэкі канчалі нагружаць маю машыну. Яны рухаліся запаволена і з непрыхаванай злосцю пaглядалі на мяне. Прапаршчык паставіў кляймо на мой пропуск, і я накіраваўся да выхаду. Тут мяне спыніў той, у будаўнічым шлеме. «Гарбату будзе прасіць», — з прыкрасцю падумаў я.

— Возьмеш ліст?

— Вазьму, — пачуў я свой голас.

Ён дастаў складзены напалову канверт.

— Пакладзі ў нагавіцы, бо куртку на КПП могуць праверыць, — усхвалявана вымавіў ён і з удзячнасцю паглядзеў на мяне. І недзе глыбока прыхаваную ў яго вачах невыносную тугу ўбачыў я. Тады ён засмуціўся і сказаў, як быццам прасіў прабачэння: — Не даюць пісаць, гады...

«...Даруй.

Апошнім часам я ўсё больш і больш думаю пра Бога.

Некалі чытаў, што ўсе святыя напачатку былі вялікія грэшнікі. Ім было ў чым пакаяцца. Але не пра святасць мару я. Кажуць, каханне ад Бога, бо д'ябал не можа нічога даць. Ён толькі робіць перашкоды. Магчыма, я кажу гучныя словы, але для мяне гэта адзіная надзея, каб вытрываць».

Я вольна мінуў прахадную. Ніхто абшукваць мяне не стаў. Машыну агледзелі жаўнеры з раз'юшаным ваўкадавам на ланцугу.

Грузчыкі, што разгружалі дошкі, вылаяліся:

— Сухі дуб і на снег пакідалі. Ведама ж, зэкі.

А я знайшоў паштовую скрынку, дастаў з кішэні канверт, разгладзіў, як мог, і кінуў ліст паўз рыпучае вечка.

Замест адваротнага адрасу на ім стаяла вялікая літара Z.

**Віктар ЯРАЦ**



# З КНІГІ «БЕРАЖАНКІ»

●

Дні-скакуны не чулі лёгкіх ног,
ляцелі — рознай масці — вольнай
рыссю.
Гарачы бег спыніць ніхто не змог:
і ўлёгся пыл за ім, які клубіўся.
І вось прыходзіць дзень, як белы конь,
пакорнай грывай адганяе муху,
чакаючы: зацягне хто супонь
надзейным і знаёма-спрытным рухам!
На раздарожжы з гэтым белым днём
настрой няпэўны і пагляд няпэўны,
нібыта перакулены на дно
памерлых рэк свет кроўны, невымерны.
Нібыта ўсе шляхі, дарогі ўсе
перакапаны некім безагляднa.
Каму ж бяроза лісце слоў трасе
ля трасы, што завецца аўтастрадай!

●

Цягнік у ранішнім тумане
падаў свой голас і заціх.
Зноў жнівень халадком світання
вітае свету чуйны слых.
На схіле лета ёсць імгненні,
калі не рэйкамі гудзе
зямля, а цішынёй здзіўлення,
як чараціна на вадзе.
Такой парой, калі навокал
журботай зацягнула дол,
старых бацькоў адчуеш крокі,
хоць так далёка іхні дом.
І слову ў час такі няпроста,
нібы гучыць не тое ў ім,
а неба—ранішняй бяростай,
што сокам трызніць веснавым.

## Цыцэроны

Не пачуць шэпт бярозы ці клёна
заглушылі яго цыцэроны.
Гэтак пафасна і ваяўніча
кожны некуды кліча і кліча.
Свет у войнах, у спрэчках шалёных.
І растуць, як грыбы, цыцэроны.
Ці ў чарзе, ці ў набітым вагоне —
гучных лаянак словы-праклёны.
Дзе ж спагадныя словы! Аукнеш —
у адказ металічныя гукі.
Перакошаны ўвоблікі злосцю,
іскры пoглядаў колюць, як восці.
Што ж, героі, раней вы пілікалі,
як за праўду цкавалі Быкава!
І ў правінцыях, і ў сталіцах
«возмущались»: «Позор Солженицыну!»
Дзе ж парыў ваш бунтарска-геройскі
быў, як білі часопіс Твардоўскага!
Самі рэкі свае замуцілі
вы, «прарокі», і догмаў месіі...

Бачу: шчокі надзьмуты, як пончыкі.
І гадуюць цыцэроны цыцэрончыкаў.

## Нарач улетку 92-га

Гоніць да берагу хваля самлелая
мёртвую рыбіну з жабрамі белымі.

Сонца высушвае соснаў вяршыні,
што закалыхвалі шчэбет птушыны.

Шэпат лістоты высмоктвае спёка.
Што ж вы, дажджы, абыходзіце бокам!

Ступіш на дол — і, нібыта іголкі,
дотык травы парудзелае колкі.

Жаліцца чайка небу аб нечым.
Нарач мялее — вечнасці глечык.

Сніцца вадзе між вятроў пералётных
подых марскі, а не подых балотны.

Гоніць да берагу хваля самлелая.
мёртвую рыбіну з жабрамі белымі.

## Трыпціх чорнага ветру

Любоў мая, колер зялёны.
Гарсія ЛОРКА.

1

А мова тая ж у травы.
Чаму ж трывожна гэтак
тут, дзе маленства паплавы,
дзе рэчка ў промнях лета!
А мова тая ж у галін
асін і ліп надрэчных.
Чаму ж гняце цябе ўспамін,
нібыта грэшны ў нечым!
А мова тая ж у вады.
Зноў хваля сонца гушкае.
Тут пераходзілі брады
гады ў густых вяснушках.
Нібы заложнік нематы,
маўчыш між траў, калісь гаючых.
Не зачарпнуць тае вады,
што тут сплыла ля стромы-кручы.
Карэнні прагнуць глыбіні,
што жывіць вецце.
Тут дыхаў з чорнай вышыні
нябачнай смерцю —
вецер.

2

Зямлі бацькоўскай жменькі хоць малыя
заўжды з сабою бралі ў дальні шлях,
навечна пакідаючы святыя
мясціны, дзе ў сцяжын адметны пах.
І там, на старане чужой, нязнанай,
дзе трэба ў глебу новую ўрастаць,
той вузялок з зямлёю цалаваный
грэў сэрца так, як агенёк жаданы,
што ўмее ў люты холад саграваць.
Цяпер жа, пакідаючы вытокі,
дзе злосным небам мечаны прасцяг,
з сабой не ўзяць ні жменькі ў шлях
далёкі
зямлі дзе ў ветру — развітальны пах.
Як ён трывожыць сэрца па начах!

3

Гайдаецца гнуткае голле
аголеных ветрам бяроз.
Ім выпала гэткая доля:
развітвацца з лісцем без слёз.
На доле — лістота, як фарбы.
Які тут мастак і калі
свае шматкалёрныя скарбы
аднойчы даверыў зямлі!
Святлелі тут кожнага вочы,
дзе шлях паміж дрэў за сялом.
Навошта ж ты, вецер, сурочыў
свет гэты белы
чорным крылом!

## Сабака

На клавішы шпал дождж, як мог,
націскаў
доўгімі, тонкімі пальцамі.
Імчаў між садоў, міма вёсак састаў.
За вокнамі — пахла акацыяй.
Мясцовы маршрут. Абшарпаны вагон.
Звыклая далеч за вокнамі.
Вясёлыя хлопцы сабаку свайго
ў вагон завялі намоклага.
Вялікі, лахматы, адданы пёс.
На поўсці кроплі дыміліся.
Вясёлыя хлопцы з дымком папяроc
на першай станцыі змыліся.
Ён бегаў трывожна з вагона ў вагон,
кожныя ногі абнюхаўшы.
А вочы то ўспыхвалі, быццам агонь,
то гаслі, як іскры патухшыя.
Ён выскачыў з тамбура, ледзь тармазнуў
цягнік на прыпынку засмужаным.
Ногі чужыя.
Нябёсаў сум
у замазучаных лужынах.
Дзе ж гаспадар мой — нібыта пытаў
вернасці пoгляд у скрусе.
З месца скрануўся павольна састаў.
З ім — да яго памкнуўся.
Потым панура, прыціснуўшы хвост,
з рэк паплёўся, паранены здрадаю.
З цяжкім дыханнем наўсцяж і наўпрост
кроплі —
без музыкі —
падалі...



Фота В. МАЙСЮКА.

маеце энтузіязм і вялікія сілы. У наступным годзе будзе 50-годдзе оперы «Лясное возера». Было б вельмі прыемна, напрыклад, прайграць уверцюру ў тэатры, а можа, і цэлую оперу. Але цяжка гэта, патрэбен час...

**— Ці думаў Кулікоўіч пра спатканне з радзімай?**

— Ён сюды, на Беларусь, хацеў вярнуцца. «Распусцяцца бярозы — мы вернемся дамоў», — пісаў. У ягонай вельмі прыгожай песні ўпэўненасць такая. А ляжыць ён на могілках у Чыкага... Знаеце, гэта дзіўная рэч: хоць я шмат гадоў працаваў з Кулікоўічам, я ніколі не сустрэўся з ім. Мы толькі пісалі адзін аднаму. Таму і не ведаў яго асабіста. Але, відаць, ён быў чалавек вельмі гумарыстычны, вельмі шчыры, вельмі талерантны. Ну, і, як Мусаргскі, любіў трошачкі выпіць... Не сноб, не горды чалавек, а вельмі гуманны быў. Пісаў і вышэйшыя прыгожыя царкоўныя мелодыі, і кабарэтныя песні — «Пацалуй мяне», тыпу... І гэта ўсё музыка! Гармонік вельмі цаніў, казаў, што гэта народны інструмент, сам граў. Усе любілі яго, акрамя яго палітычных апанентаў. Ёсць ідэя збіраць інфармацыю пра Кулікоўіча, ягоныя лісты...

**— З Равенскім таксама, відаць, не сустракаліся?**

— Не давялося. Я пачаў цікавіцца беларускай музыкай, калі Равенскі ўжо не жыў. Ён таксама быў вельмі сімпатычны, вельмі спакойны чалавек, кажуць. І яго, гэтаксама як і Кулікоўіча, нельга адносіць да «музыкі беларускага замежжа». Якое замежжа? Ён быў менскі. Збіраў песні на Наваградчыне. Перад вайной працаваў з Дубоўкам над операй «Браніслава», але пасля арышту Дубоўкі жыў у страху. А быў выдатны царкоўны кампазітар, меў інструментальную камерную музыку. Не думаю, што ўсё гэта знішчылі. Захавалі, мабыць, як Крыж Еўфрасінні Полацкай.

**— Дзе ж?**

— А! Дзе... Запытайцеся належных людзей, якія ведаюць. А я не веру, што Крыж у Амерыцы. Карона венгерскага караля — так, была вывезена туды, і было сказана: мы захаваем, і калі Венгрыя будзе вольнай, аддамо. І аддалі, цяпер гэтая карона ў Будапешце. І калі б у Амерыку трапіў Крыж Еўфрасінні Полацкай, я думаю, ужо таксама перадалі б на Беларусь. Думаю, што ён бліжэй...

Ведаеце, нам высылаюць цяперашнюю харавую музыку, кругельцы, касеты. Ведаю музыку Андрэя Мдзівані, Аляксандра Літвіноўскага, ягоны твор «Францыск містэрыоза». Па-мойму, Літвіноўскі зразумеў, хто ёсць Францыск Скарына: містык! Кампазітар мае рацыю. Я зараз скончыў артыкул «Скарына і кабала». У XVI ст. былі такія рэнесансавыя фігуры, як Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Дзюрэр, Скарына, Рабле... Гэта ўсё былі не толькі навукоўцы, але акультысты. Чаму? Таму што яны пачалі казаць, што чалавек можа быць як Бог і ён таксама будзе ўладаром сусвету. Кабалісты тады шмат пісалі пра тое, ці ёсць святая Сафія жанчына ці мужчына? Дух святы: мужчына ці жанчына? І г. д. А мы цяпер зноў дыскутуем, напрыклад: ці магчыма быць жанчыне святаром?

Знак Скарыны — гэта вялікі сакрэт. Як ва ўсім у Скарыны, ёсць тут шмат сэнсаў. У інтэрпрэтацыі тэкстаў ёсць боскі сэнс, алегарычны сэнс, сімвалічны сэнс і літаральны. Сонца і месяц у містычным сэнсе — сімвал шакіна: у кабалізме, што вынікае з хасідскай традыцыі, вельмі моцнай на Беларусі, гэта значыць любоў паміж Богам і Ізраілем, але інакш кажучы, паміж Богам і царквой Ізраілевай, нашай хрысціянскай царквой. Скарына хацеў уз'яднання ўсіх людзей. Як святы Францішак казаў: сонца мой брат, месяц мая сястра, сабакі, каровы — мы ўсе браты, бо ёсць стварэнні Божыя. І францысканскі містыцызм вельмі блізкі да кабалы, а Скарына меў нейкія сувязі з францысканцамі, бо ў Полацку была францысканская школа. А людзі ведаюць і іншы сэнс знака сонца з месяцам: кажуць, гэта выява зацьмення, якое было ў час нараджэння Скарыны... Я не кажу, што ён быў абавязкова кабаліст, таму што мала ведаю пра гэта, але маю такую тэорыю, якую абгрунтаваў у сваім новым артыкуле.

**— Шчыры дзякуй, спадар Пікарда. Будзем спадзявацца, што мудрыя высновы вашага артыкула, падрыхтаванага пакуль для англамоўнага друку, дойдуць і да беларускага чытача, як сталася з «Алегарычнай геральдыкай Францішка Скарыны» ў апошнім нумары «Спадчыны». Дай Бог, каб маладыя нашы дзеячы адраджэння гэтаксама апантана і паслядоўна спраўлялі свой нялёгкі чын...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота У. ПАНАДЫ.

# РАБОТА З ПРАСТОРАЙ, ПОШУК ВОБРАЗА

**Эдуард Агуновіч — адзін з вядучых мастакоў музейнай справы. Да таго ж ён мастак кнігі, неаднаразова ўзнагароджваўся дыпломамі на выставах «Мастацтва кнігі». Ён жа — майстар станковай графікі. У сваіх гістарычных серыях мастак разважае аб трагічным лёсе Радзімы, аб вечным і штодзённым. А ягонае захапленне «тэатрам» літаратурнага музея пачалося з Вязынкі, радзімы народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.**

**Для мастака стварэнне экспазіцыі музея, яе мастацкая канцэпцыя — гэта перш за ўсё работа з прасторай, пошук вобраза, які б адпавядаў падзеі, часу, асобе.**



Фрагмент новай экспазіцыі музея ў Вязынцы. 1992 г.

Нагадаю некалькі дат, падзей культурнага жыцця, да якіх мае дачыненне мастак. 1972 год — стварэнне новай экспазіцыі ў філіяле музея Янкі Купалы на радзіме паэта ў Вязынцы. 1976 — адкрыццё новай экспазіцыі Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Менску. 1980 — стварэнне гісторыка-літаратурнага музея «Над ракою Арэсай» на Любаншчыне ў калгасе «Чырвоная Змена». 1989 — мастацкая канцэпцыя афармлення экспазіцыі новага купалаўскага філіяла — «Акопы» ў вёсцы Харужанцы на Лагойшчыне. І нарэшце, юбілейны 1992 год — работа над новай экспазіцыяй у адноўленым свірне ў Вязынцы і над стварэннем архітэктурнага вобраза тэрыторыі новага заказніка музея Янкі Купалы «Акопы».

Паміж першай і апошняй датай — доўгія 20 гадоў. Ды для мастака зварот да Купалы адбыўся значна раней. Тады, як у дзяцінстве прачытаў паэму «Курган»; тады, калі ўсвядоміў сябе беларусам. Для Эдуарда Агуновіча Янка Купала — творца. які найбольш арганічна ўвасабляе беларускі дух, а значыцца арганічны і ягонаму мастакоўскаму бачанню.

Апошнім часам Э. Агуновіч працаваў над вобразам другога слыннага паэта Беларусі — Максіма Багдановіча. 6 гадоў галоўным клопатам мастака была экспазіцыя музея паэта. Э. Агуновіч паказаў у экспазіцыі пачэснае месца Максіма ў еўрапейскім літаратурным працэсе пачатку XX стагоддзя. Гэта адчулі наведвальнікі, даследчыкі з Францыі, Англіі, ЗША, аб гэтым пакінула цікавы водгук Вера Рыч, ангельская перакладчыца на беларускую мову. Яна адзначыла, што, узровень экспазіцыі адпавядае лепшым узорам літаратурных музеяў Еўропы.

Творчасць Э. Агуновіча дае падставы для размовы аб тым, што такое музейная справа сёння, якія праблемы ў сучасным мастацкім працэсе афармлення музеяў. Кожнае адкрыццё экспазіцыі — гэта як персанальная выстава, дзе выяўляецца асоба мастака ў развіцці і станаўленні. На экспазіцыях, якія належаць мастаку, ствараецца цэласнае ўяўленне аб ягоным творчым шляху. Яны адзначаны неардынарнасцю аўтарскага вырашэння на ўсіх этапах: ад ідэі, задумы да ажыццяўлення.

Мастак вырашае праблему існавання экспаната ў прасторы але пры гэтым не забывае гістарычную сутнасць дакумента, рукапіса, кнігі. Э. Агуновіч, працуючы над літаратурнай экспазіцыяй, вывучае творчасць пісьменніка на ўзроўні навукоўца і даследчыка. А калі мастак спалучае факты біяграфіі, экспанаты з пэўнымі сімваламі, узнікае свята экспазіцыі, як гэта адбылося ў дні 110-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы ў Вязынцы ў будынку свірна.

У аснове тэмы экспазіцыі — свята Купалле, у гонар якога Янка Купала ўзяў сабе псеўданім. Па думцы мастака, паэт ужо гэтым адным стварыў свой сімвал, збудаваў помнік сабе і свайму народу. Тут, у свірне, Э. Агуновіч стварыў своеасаблівую імпрэзу, дзе адбываецца сімвалічная дзея, удзельнікі якой — экспанаты і гледачы: рухаюцца ў прасторы ад паветра маўклівыя сведкі часу — саламяныя птушкі і сонейка; узняліся да столі, «да сонца, да зор» ручнікі, пад якімі сяўня, жорны — сімвалы ўраджаю, урадлівасці, цеплыні і народнасці.

Наўкол наведвальніка ўзнікае маленькі тэатр з этнаграфіі і гісторыі, рэчаў побыту і народнага адзення, ручнікоў, птушак, сонейка і калядных масак з саломкі. Яны вядуць паміж сабой размову на мове сімвалаў і разам з тым ідзе дыялог паміж гісторыяй і сучаснасцю. У экспазіцыі «Купалле» «Народныя святы, апаэтызаваныя ў творчасці Янкі Купалы») на нашых вачах ствараецца новае разуменне і новая эстэтыка прасторы.

Э. Агуновіч апантаны любоўю да зямлі-Бацькаўшчыны, да зямлі-сімвала, што аб'ядноўвае ўсіх людзей. «Час збіраць камяні...» Невыпадкова яго захапленне каменнямі, як сімваламі вечнасці і часу... Таму і з'явіўся як працяг экспазіцыі ля будынка свірна ў Вязынцы сонечны гадзіннік з купальскім шастом і каменнямі наўкол яго. Ці не таму зараз, калі мастак працуе над мастацкім вырашэннем тэрыторыі новага заказніка Літаратурнага музея Янкі Купалы «Акопы», ён насычае яе цікавымі формаўтварэннямі, у тым ліку і каменнямі, як маўклівымі, таямнічымі сведкамі часу, непаўторнымі помнікамі прыроды.

Майстар усведамляе, што Беларусь, Янка Купала, Максім Багдановіч — гэта панацці вечныя, праз якія мы спасцігаем Бацькаўшчыну, становімся аднадумцамі і гаворым словамі народнага песняра:

...Што роднай нівы я
мільённая часціна,
Што зоркі роднай ў сэрцы
мне іскрынка тліць.

**Яніна ВАДАНОСАВА,**
**загадчыца навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.**

зацъ» твор сваім студэнтам і вучням.

Як кажа кіраўнік калектыву В. Бартноўскі, ідэя падобнага роду музычных ансамбляў, свабодных па форме і змесце, нарадзілася ў многім з таго сэнсу, які ён укладае ў назву і аблічча калектыву. Звернемся да музычнай энцыклапедыі. «Калегіум музікум», або садружнасць музыкантаў»,— напісана там,— «назва аб'яднанняў музыкантаў і аматараў музыкі з бюргерскага або студэнцкага асяроддзя, якія ствараліся з мэтай супольнага грання... Агульным для дзейнасці «Калегіум музікум» з'яўлялася свабоднае музіцыраванне, якое садзейнічала самаадукацыі, заахвочванню кампазітараў да стварэння інструментальнай музыкі, павышэнню ўзроўню выканаўчага майстэрства, а з часам і музычнага асветніцтва». У гісторыю заходнееўрапейскага мастацтва ўвайшлі падобныя калектывы, якія ўзначальвалі Г. Ф. Тэлеман, І. Кунау ды І. С. Бах — а ён, як адзначаюць даследчыкі, лічыў дзейнасць музі(дырэктара «Калегіум музікум» у Лейпцыгу вянцом сваёй творчай працы.

У складзе мінскай «музычнай садружнасці» пераважна маладыя музыканты-прафесіяналы, якія — на жаль! — не спешчаны афіцыйнымі магчымасцямі шмат іграць публічна і,натуральна, арганічна развіваць свае творчыя задаткі. Работу па пошуку і адборы новых выканаўчых імён В. Бартноўскі вядзе пастаянна і мэтанакіравана. Пад знакам праграмы «Новыя імёны» прайшлі канцэрты з удзелам студэнтаў кансерваторыі, вучняў Музычнага ліцэя, музычных школ рэспублікі і замежжа. Захаплялі сваёй «дарослай» ігрой Я. Віданаў (флейта), А. Кавалінскі (труба), Ю. Ляшчышын (габой), юныя скрыпачкі А. Казлова, Л. Бацэка, Н. Артамонава, піяністкі Д. Захарава, Л. Старцава, Д. Ізмайлава, стажор ГАВТа сапрана Т. Варапай — усіх не пералічыць. Гэтыя музыканты ўжо маюць сваю публіку, якая просіць арганізаваць іх выступленні яшчэ і яшчэ раз.

Мінскі камерны аркестр «Калегіум музікум» распачаў новы сезон. А гэта — новыя планы, задумы, праекты. Мяркуецца ўдзел у шэрагу дабрачынных праграм. Прадоўжацца гастрольныя турнэ за мяжу. І, вядома, новыя канцэрты цыкла «Музыка і выяўленчае мастацтва», праграмы якіх значна пашырацца. Безумоўна, вельмі многае будзе залежаць ад сітуацый, якія ўзнікаюць у нашым непрадказальным жыцці. Але я дазволю сабе захаваць суцяшальны спадзеў на тое, што ёсць у чыне маладога ансамбля непадуладнае павевам часу, а гэта і складае адну з цудоўных канстант нашага чалавечага існавання.

**Алена ГАРАХАВІК.**

**ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЯМІ**

# АД ЧАГО «ЛЕКІ...»?

Чацвёрты тэатральны сезон Слонімскі беларускі драматычны тэатр пачаў з прэм'еры паводле Уладзіслава Галубка. Слонімскія артысты вяртаюцца да яго твораў другі раз. Яшчэ ў 1972 годзе заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Варвашэвіч упершыню паставіў драму «Ганка». Гэта была вялікая падзея ў тагачасным культурным жыцці нашай рэспублікі. Спектакль два разы паказвалі па тэлебачанні, шырока пісаў пра яго друк. Нават эміграцыйны часопіс «Баявая ўскалось» (№ 12, 1972 г.), які выходзіў у Канадзе, змясціў фотаздымак «Ганкі» і тэкст да яго: «Артыстка Слонімскага народнага тэатра Святлана Варвашэвіч у ролі Ганкі з драмы «Ганка», напісанай у 1912 годзе беларускім драматургам Уладзіславам Галубком. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Музыка мясцовага кампазітара М. Гарабца...»

Праз дваццаць гадоў усё той самы нястомны і апантаны Мікалай Варвашэвіч ажыццявіў на сцэне тэатра пастаноўку камедыі «Пісаравы імяніны». Як вядома, п'еса ў розны час на сцэнах Беларусі ішла пад рознымі назвамі: «Залёты дзяка», «Хвароба ў добрым здароўі» і іншымі. У Слоніме прэм'ера адбылася пад назваю «Лекі ад кахання».

Уладзіслаў Галубок, калі пісаў сваю камедыю, добра ведаў, з каго будуць гледачы смяяцца. Гэтага прытрымліваўся і рэжысёр, і акцёры. Смех драматурга з адмоўных рысаў чалавечага жыцця шчыры і адкрыты. Рэжысёр М. Варвашэвіч пэўным чынам асучаснівае спектакль і таму ягоныя падзеі па-своймуператлумачваюць наш будзённы, звычайны дзень...

Акцёр Уладзімір Навумік стварыў своеасаблівы вобраз пісара — чалавека, які ў «сваім жыцці трэці раз дурня меў. Першы раз, калі быў старшым намеснікам малодшага пісара, на радасцях так напіўся, што замест пакаёўкі доктара па абмылцы абняў жонку доктара, за гэта дастаў па вушах і са службы выгналі. Другі раз паехаў на шалёнай кабыле ў горад і замест дарогі ўехаў з аглоблямі ў аптэку. за гэта адседзеў два дні ў часці, да зубы выбілі і за акно заплаціў. А цяпер трэцяя бяда...»

Бяда!.. Бо яго жонка (Вікторыя Сямёнава) «знюхалася» з дзякам (Віктар Багушэвіч). Дарэчы, дзяк В. Багушэвіча даволі праўдзівы. Акцёр, скажу шчыра, здольны, а тыя героі, якіх ён іграе на сцэне Слонімскага тэатра, такія разнастайныя!

У пары з Вікторыяй Сямёнавай ролю жонкі пісара выконвае і Таццяна Мурашка. Калі жонка ў выкананні Сямёнавай выглядае адзінокай арыстакраткай-беларучкай, дык жонка ў выкананні Мурашкі — гэта хітрая, здзеклівая і беспардонная жанчына.

Ірына Яцук іграе ролю Мар'і. Яе гераіня атрымалася трагікамічнай, шустрай і шчырай жанчынай. Вельмі моцныя сцэны ў спектаклі, калі застаюцца адзін на адзін пісар (У. Навумік) і Мар'я (І. Яцук). Створаныя імі героі выклікаюць у зале ажыўлены смех, ім сімпатызуюць гледачы — сімпатыі дзеліць і Л. Літвіненка ў ролі Аўдоцці.

У спектаклі «Лекі ад кахання» заняты таксама акцёры Аляксандр Камінскі і Мікалай Сцешыц.

Да сказанага вышэй хочацца дадаць, што ў новай пастаноўцы слонімскіх артыстаў шмат вясёлай музыкі, песень і танцаў. А вось што датычыць харэаграфіі, то прафесіяналізму тут малавата. А менавіта танцы і павінны надаваць спектаклю весялосці, настрою. Іх, на жаль, пакуль бракуе.

Ці ж вылечаць «Лекі ад кахання»? Вядома, вылечаць. У першую чаргу ад жыццёвай мітусні, клопатаў і хваляванняў.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**журналіст.**

# ПАДМАНУТАЕ ПАКАЛЕННЕ

## З пісьменніцкага блакнота

У ТРАЕЦКІМ ПРАДМЕСЦІ Менска, на Свіслачы, якая паміж узбярэжнай вуліцай прадмесця і праспектам Машэрава асабліва шырокая і прыгожая, ёсць невялічкая выспа. На выспе гэтай некалькі гадоў назад быў закладзены мемарыяльны камень, — на тым месцы, дзе ён закладзены, павінен некалі ўзняцца помнік беларускім хлопцам, што загінулі на вайне ў Афганістане. На помніку, вядома, будзе выбіты надпіс... Які? Што напішуць залатымі літарамі на мармуры альбо на граніце? Як назавуць тых, хто спіць вечным сном на гэтай выспе, хоць і няма пад каменем іхніх костачак, а ляжаць яны недзе ў чужой зямлі, ды ўсё роўна ляжаць і тут, сімвалічна пахаваныя ў сімвалічнай братняй магіле, і кожная маці, чый сын не вярнуўся з афганскага пекла, можа ўскласці на гэту магілу кветкі і папплакаць над ёю як над сапраўднай, жывой магілкай свайго сыночка, — як назавуць іх? Героямі ці ахвярамі. Прыкладам адвагі, мужнасці і адданасці Радзіме ці няшчасным падманутым пакаленнем, чыёй крыві няма апраўдання ў вачах нашчадкаў?

Пытанне гэта паўстала не сёння, а ў той самы дзень, калі Савецкая Армія перайшла апошні ў сваёй гісторыі фатальны рубікон — граніцу з Афганістанам. Каб выканаць, як было сказана, свой пачэсны абавязак перад афганскай рэвалюцыяй, перад народам Афганістана, перад усёй сацыялістычнай садружнасцю. Але ў той жа самы дзень было сказана і зусім іншае. Што ўварванне ў Афганістан — злачынства, што гэта —ваенная і палітычная авантура, якая непазбежна закончыцца крахам, што савецкія войскі павінны неадкладна, пакуль Савецкі Саюз не завязнуў у гэтай ганебнай вайне, пайсці з Афганістана. Чалавека, які гэта сказаў, назвалі здраднікам, паклёпнікам, паслугачом імперыялізму, ворагам усяго прагрэсіўнага чалавецтва і саслалі, каб не мазоліў вочы. А ён аказаўся пракрокам. Ды прарокаў ненавідзяць асабліва люта менавіта тады, калі іхнія прароцтвы збываюцца, што пацвердзілася яшчэ раз у зале пасяджэнняў Крамлёўскага палаца з'ездаў у тым далёкім ужо 1989 годзе, амаль праз дзесяць год пасля пачатку вайны ў Афганістане. О, якой пякучай нянавісцю была наэлектрызавана гэтая зала, калі перад дэлегатамі Першага з'езда народных дэпутатаў СССР стаяў той чалавек! Як яна тупала на яго нагамі, шыкала, шыпела, лямантавала, калі ён зноў назваў афганскую вайну злачыннай, а яе ўдзельнікаў — саўдзельнікамі злачынства!.. З якім лютым запалам кляйміў сівенькага, кволага прарока малады афіцэр— герой афганскай вайны! І ў гэтым запале сваім не задумваўся ні на міг над тым, што калі б прыслухаліся да голасу «здрадніка» і «паклёпніка» ў трагічным снежні 1979 года, дык сам не стаяў бы цяпер у гэтай зале на пратэзах. Але ў тым то і справа, што ён ганарыўся сваімі пратэзамі, сваімі ўзнагародамі, здабытымі ў жорсткай знішчальнай вайне супраць народа Афганістана. І калі спытаць у яго, які надпіс павінен быць выбіты на помніку, што ўзнімецца некалі на свіслацкай выспе, ён, несумненна, скажа: героям, рыцарам без страху і папроку...

Ды з якой нагоды зноў гэтая гаворка? Вайна ў Афганістане некалькі год як скончылася, даўно ўжо дадзена ёй палітычная, прававая і маральная ацэнка. Адзіны яе, так бы мовіць, станоўчы момант — гэта тое, што яна ў значнай ступені паспрыяла разбурэнню савецкага таталітарызму, бо ўвесь час, пакуль працягвалася, высмоктвала з яго сокі. Дык ці варта зноў пачынаць спрэчку аб тым, што гэта была за вайна і як называць яе ўдзельнікаў?

Варта! Бо тыя сілы, якія збіраюцца сёння пад сцягамі камуністычнага імперскага рэваншу, жадаюць аднавіць не толькі старыя парадкі, старыя партыйныя і дзяржаўныя структуры — усё тое, што было названа каманднa-адміністрацыйнай сістэмай, але і яе ідэйныя каштоўнасці, у тым ліку і яе ваенную славу. Менавіта ў гэтым кантэксце становяцца зразумелымі сэнс і імпэт несупынных атак нашых «тутэйшых» рэваншыстаў на пісьменніцу Святлану Алексіевіч, на яе кнігу «Цынкавыя хлопчыкі», у якой быў вынесены бескампрамісны прысуд ганебнай афганскай вайне вуснамі самых яе ўдзельнікаў.

Пачынаючы з чэрвеня гэтага года, то чыкінская газета «Мы и время», то «Славянские ведомости», то газета былой чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины», то ўсе разам нападаюць на «Цынкавых хлопчыкаў», нібы спахапіўшыся пасля некаторай разгубленасці з прычыны правалу мінулагодняга жнівеньскага путчу рэваншысцкіх сіл, калі было не да абароны «доброго имени доблестных воинов-интернационалистов», а трэба было ратаваць сваё месца пад сонцам, адхрышчвацца ад сімпатый да путчыстаў. Сёння яны вырашылі, што настаў час ісці ў рашучую атаку і на «афганскім напрамку». Падбадзёрвае, відаць, чырвона-карычнева-белы фронт нацыянальнага ратавання расейскай рэакцыі, ваяўнічыя воклічы «отцов-командиров», накшталт бравага генерала Альберта Макашова!..

Не буду спыняцца на аргументацыі чыкінскай «Мы и время», таксама як і на аргументацыі «Славянских ведомостей» і «Во славу Родины». Іх зняважлівы, абразлівы тон, грубая лаянка, кулачныя прыёмы класавай барацьбы, якім яны навучыліся яшчэ ў партшколе бальшавіцкай «Правды», — усё гэта не той узровень, на якім можна весці палеміку, палемізаваць на такім узроўні — значыць, не паважаць сябе і сваю прафесію літаратара. Таму спынюся толькі на больш прыстойнай, ва ўсякім разе, хоць неяк аргументаванай пазіцыі афіцэра-«афганца», пісьменніка Мікалая Чаргінца, — на яго інтэрв'ю, якое ён даў газеце «Рэспубліка» 12 кастрычніка гэтага года ў адказ на інтэрв'ю Святланы Алексіевіч той жа газеце, змешчанае на яе старонках 13 чэрвеня. Не аператыўна, праўда, адрэагаваў Мікалай Чаргінец на выступленне аўтара «Цынкавых хлопчыкаў», аж праз чатыры месяцы, ды, напэўна, ён хацеў усё добра ўзважыць, прадумаць. Толькі ж слабінка ў ягонай пазіцыі ўсё ж засталася...

Пачну з таго, з чаго пачынае і Мікалай Чаргінец,—з яго абурэння словамі Святланы Алексіевіч, сказанымі ёю яшчэ ў кастрычніку мінулага года ў інтэрв'ю «Звяздзе»: «...няма ніякай розніцы паміж нашымі хлопцамі там (у Афганістане. — В. Т.) і немцамі ў Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны». Прывёўшы гэтыя словы, Мікалай Чаргінец кажа: «...мяне абурыла гэта як «афганца», як афіцэра». А на пытанне: «Але чаму?», адказвае: «Таму што яна не ведае нічога пра вайну наогул. Не бачыла і не ўдзельнічала ў Вялікай Айчыннай — нарадзілася праз тры гады пасля яе заканчэння. Я — ведаю. Тры гады быў тут у Мінску ў акупацыі. На маіх вачах вешалі людзей цэлымі сем'ямі на Камароўцы, дзе цяпер помнік Якубу Коласу. Бачыў, як расстрэльвалі маладых і старых, дзяцей і жанчын. Не шкадавалі нават немаўлятак. Ёсць і сярод маіх сваякоў знішчаныя — павешаныя... Яна ж тры дні пабыла ў Афганістане — у распалажэнні воінскай часці ды ў Кабуле, які ахоўваўся нашымі войскамі, адзін раз. Я, дазволю сабе сказаць, ведаю, што такое афганская вайна: тры гады быў там і не адседжваўся за спіною нашых хлопцаў...»

Дык вось, я таксама ведаю, што такое вайна, бо таксама, як і Чаргінец, быў у акупацыі, жыў у Менску, у раёне той жа Камароўкі, на Цнянскай вуліцы, і бачыў тых жа павешаных, бачыў, як расстрэльвалі цэлымі сем'ямі. І сярод маіх сваякоў таксама ёсць закатаваныя фашыстамі. Але я не проста глядзеў, як фашысцкія акупанты здзекваюцца з народа, а пайшоў у сорак трэцім у партызаны. Кажу гэта не ў папрок Чаргінцу, такі папрок выглядаў бы проста смешна, бо калега Чаргінец на сем гадоў з гакам маладзейшы за мяне, а мне ў сорак трэцім было трынаццаць. Думаю, аднак, што, на падставе гэтай аўтабіяграфічнай даведкі, я маю маральнае права аспрэчваць пазіцыю Чаргінца ў гэтай яго палеміцы з Алексіевіч.

Простае пытанне: кім ён быў, калі знаходзіўся ў Афганістане, у вачах афганцаў? Крыўдна, але такім жа самым акупантам, чужынцам, якім быў для нас у гады нашага з Чаргінцом ваеннага дзяцінства кожны нямецкі афіцэр і салдат — незалежна ад таго, някепскі ён чалавек ці гад гітлераўскі фанатык. Усе яны былі для нас на адзін твар. Калі гэта не так, калі Чаргінец ні ў якім разе акупантам сябе не лічыць, дык чаму народ Афганістана столькі год вёў упартую партызанскую вайну супраць той арміі, у якой служыў паважаны Мікалай Іванавіч? Не сумняваюся, што служыў аддана, не хаваўся, як ён кажа, за спіною нашых хлопцаў, таксама адданых і адважных, але ж армія ўсё-такі была акупацыйнай, іншаземнай, варожай для афганцаў арміяй, якая прыйшла ў Афганістан, каб сілай навязаць яе народу волю чужой дзяржавы, чужы для яго лад жыцця. Хай бы ён быў нават найлепшым у свеце! Таму калі Мікалай Чаргінец абураецца, што яго параўноўваюць з нямецкім акупантам часоў Вялікай Айчыннай, то, даруйце, я, былы партызан Беларусі, не магу калі не абурацца, дык не пратэставаць самым рашучым чынам супраць знаку роўнасці паміж салдатамі і партызанамі Вялікай Айчыннай вайны і тымі, хто ваяваў у Афганістане. Бо мы ваявалі на сваёй роднай зямлі, ратавалі яе ад іншаземных захопнікаў і толькі праз тры гады прыйшлі на зямлю іх саміх, прыйшлі як адплата за тое, што яны зрабілі з нашым народам, з нашай Бацькаўшчынай. Вы з першага дня да апошняга ваявалі на чужой зямлі, і ваявалі не ў белых пальчатках. Мільён забітых жыхароў Афганістана, некалькі мільёнаў параненых і пакалечаных, руіны афганскіх гарадоў і папялішчы кішлакоў засталіся за вашымі плячыма...

І, нарэшце, самае галоўнае.

Не думаю, што Мікалай Чаргінец, сын Беларусі-партызанкі, жывы сведка таго, што такое ўсенародная партызанская вайна, калі дарэмныя самыя жорсткія блакады партызанскіх раёнаў, масіраваныя бамбёжкі, прачосванні, утварэнне мёртвых зон, масавыя дэпартацыі, — не думаю, што ён, знаходзячыся ў Афганістане, не разумеў, не бачыў, што там, па сутнасці, адбываецца тое самае, што адбывалася на Беларусі ў гады яго дзяцінства. (Дарэчы, у замежным друку паведамлялася ў свой час, што афганскія маджахеды вывучаюць і выкарыстоўваюць вопыт беларускіх партызан). Напэўна, разумеў, напэўна, бачыў, але, як ён кажа ў сваім інтэрв'ю «Рэспубліцы», «выбару ў ваеннаслужачых не было, і яны ішлі на вайну, выконваючы загад крамлёўскіх авантурыстаў, аддадзеныя, дарэчы, ад імя народа. А цяпер Алексіевіч... заклікае «афганцаў» да пакаяння. Дазвольце запытаць: ці па адрасу яе заклікі?» Вядома, Чаргінец лічыць, што не па адрасу, што ўсе прэтэнзіі да тых, «хто прыняў злачыннае рашэнне, паслаўшы сваіх падданых на смерць». Баюся, што калега Чаргінец зноў абурыцца, аднак не магу не заўважыць, што мы гэта ўжо чулі на адным сусветна вядомым судовым працэсе, на якім таксама ўсю адказнасць за развязванне другой сусветнай вайны, за ўсё, што нарабіла германская армія на акупіраваных тэрыторыях, радавыя падсудныя і іх адвакаты валілі на вышэйшае кіраўніцтва нацысцкай партыі і рэйха. Маўляў, пры чым тут салдаты і афіцэры? Яны толькі выконвалі загады і не маглі іх не выконваць, на тое яны і салдаты!.. Аднак немцы ў рэшце рэшт пакаяліся, прызналі як калектыўную віну ўсяго нямецкага народа, так і кожнага немца асабіста перад народамі былога Савецкага Саюза, перад народамі Еўропы за ўсе злачынствы, за ўсе жахі развязанай Германіяй вайны. І ці не гэтае пакаянне, ачышчэнне ад грэху дапамагло немцам пабудаваць на руінах нацысцкага рэйха тую Германію, якую мы ведаем сёння як адну з самых дэмакратычных і заможных краін? А мы вось не жадаем каяцца ні ў чым. Упэўнены, што нам і няма ў чым каяцца. У злачынствах сталінізму, у брэжнеўскай каталепсіі, якая ахапіла ўсю краіну і прывяла ў сярэдзіне васьмідзесятых гадоў да паралічу, а потым да распаду стрyпянелага цела вялікай дзяржавы, вінаваты хто хочаш, толькі не мы! Бо мы верылі ва ўсё, што нам уводзілі ў вушы і ў душы. Гэтакія наіўныя істоты, якія верылі ў д'ябла, застаючыся анёламі!..

Але вернемся да афганскай вайны.

Дзіўная «выгарадка» назіраецца тут! Удзельнікі гэтай вайны гатовыя прызнаць, што падцвярджаецца і выказваннямі Мікалая Чаргінца, САМУ вайну злачыннай, але даказаць пры гэтым, што МЫ на гэтай вайне былі харошымі, чыстымі, сумленнымі, што, прайшоўшы праз яе кроў і бруд, не запэцкаліся і на воінскіх сцягах нашых, як і на нашым сумленні, няма і плямінкі. На жаль, так не бывае. На вайне як на вайне — гэта прызнае і Мікалай Чаргінец.

Так, на вайне ў Афганістане былі розныя людзі, тут няма аб чым спрачацца, і я веру Чаргінцу, калі ён кажа, што нягоднікі, якія «рабавалі і нават забівалі мірных жыхароў, неслі суровае пакаранне». Веру і ягонаму расказу пра тое, як «васемнаццацігадовыя хлопчыкі кідаліся пад агонь на полі бою, каб выцягнуць таварышаў ці камандзіраў, альбо, прыкрываючы адступленне сваіх, гінулі, адбіваючы знявечаных душманамі афганскіх хлопчыкаў». Аднак не магу не спытаць: а калі наша артылерыя вяла масіраваны агонь па якім-небудзь кішлаку ці горадзе, там не гінулі афганскія хлопчыкі? Жанчыны? Старыя! Няўжо мільён афганцаў забілі адны толькі нягоднікі? Але ж сам Мікалай Іванавіч Чаргінец сведчыць, што нягоднікамі былі адзінкі... А што тычыцца самаахвярнасці і смеласці «васемнаццацігадовых хлопчыкаў», дык такую ж самаахвярнасць паказвалі і маладыя салдаты вермахта — і яны пад агнём выносілі з поля бою сваіх таварышаў, сваіх камандзіраў, гінулі, ратуючы іх, але гэта ніяк не мяняла характар вайны, якую яны вялі супраць нашага народа. Так і тут. Колькі ні прыводзь прыкладаў самаахвярнасці, мужнасці і адвагі, расказваючы пра сваіх сяброў па зброі, характар і сутнасць афганскай вайны ад гэтага не зменяцца. Вядома, нельга не паважаць самаахвярнасць, мужнасць і адвагу салдата, нават і тады, калі гэта варожы салдат. (Мо Мікалай Чаргінец памятае той савецкі танк, які ўварваўся ў заняты немцамі Менск на пачатку ліпеня 1941 года, вёў бой на вуліцах горада і быў падбіты на Камароўскай плошчы. Там ён і прастаяў усю вайну, агароджаны бярозавымі калкамі, а зрабілі гэты штыкетнічак немцы ў знак павагі да нашых адчайных танкістаў). А тут размова не пра ворагаў — пра сваіх, родных... І ўсё ж, паважаючы іх салдацкую мужнасць і самаахвярнасць, прызнаючы за імі права на тыя ж прывілеі, якія маюць удзельнікі Вялікай Айчыннай (прывілеі, дарэчы, мізэрныя, проста жабрацкія — сумленнай дзяржаве павінна быць сорамна за іх), не магу пагадзіцца з рамантычным арэолам вакол той ганебнай, злачыннай вайны, у якой яны ўдзельнічалі, з імкненнем зрабіць з іх высакародных рыцараў. Любая вайна не рыцарства, тым больш вайна, па сутнасці, каланіяльная.

Атакуючы Святлану Алексіевіч за тую праўду аб афганскай вайне, якую яна сказала вуснамі сваіх нявыдуманых герояў, сёй-той хаваецца, як за спіною заложніц, за спіною маці салдат, што загінулі ў Афганістане. Маўляў, Алексіевіч стараецца пераканаць матуляў, што іх сыны былі ў Афганістане забойцамі, што яны рабілі там чорную справу карнікаў непакорлівага народа, — у той час як матулі лепш, чым Алексіевіч, ведалі і ведаюць сваіх сыноў, а ведалі яны іх харошымі, светлымі, чыстымі. Як жа можна адбіраць у маці такую яе памяць пра сына!

Так, няшчасныя маці! Горкія іх слёзы, пякучыя, балючыя, няўтольная крыўда разрывае ім сэрцы. Усё так!.. Ды зноў жа не магу не спытаць у Мікалая Чаргінца: працуючы ў свой час у крымінальным вышуку, выкрываючы злачынцаў, хіба не сустракаў ён маці, якія, даведаўшыся, што іх сын замешаны ў злачынстве, не верылі, не маглі паверыць следчаму нягледзячы на ўсе неабвержныя доказы? «Мой сын?! Гэта немагчыма! Я ведаю свайго сына! Ён такі ласкавы, такі добры, такі ціхі! Не, тут нейкая памылка, мой сын не можа быць злачынцам!..» Відаць, цяжка было Мікалаю Чаргінцу глядзець у вочы няшчаснай жанчыне. Відаць, сэрца яго аблівалася крывёю, але ён мусіў гаварыць няшчаснай маці праўду, бо на стале ў яго ляжаў пратакол допыту, які сведчыў, што «ласкавы, ціхі, добры» ўсё ж такі зрабіў злачынства...

«Цынкавыя хлопчыкі» таксама — пратакол допыту. І, гаворачы словамі Чаргінца, на яго старонках паўстаюць «розныя людзі» — і тыя, хто ўсё зразумеў, хто жахнуўся, гледзячы нібы з боку на сябе самога, там, на вайне, і тыя, хто нічога не зразумеў, хто шукае апраўдання толькі сваёй крыві, сваіх пакут, забываючыся пра чужыя. Розныя людзі, розныя лёсы, якія зліваюцца ў гэтай сапраўды бязлітаснай, сапраўды жорсткай кнізе ў адзін лёс — лёс міжвольных катаў афганскага народа. Нехта павінен быў сказаць гэта, гледзячы ў вочы маці, якія нарадзілі і выхавалі апошніх рамантыкаў сталінска-брэжнеўскага сацыялізму...

А помнік на выспе ў Траецкім прадмесці абавязкова павінен быць. Толькі напісаць на ім трэба праўду: «Сынам нашым, загінуўшым у Афганістане, — ахвярам злачынства, якое ніколі не павінна паўтарыцца».

**Валянцін ТАРАС.**

МУЗЫКА

## Першы на Брэстчыне

Касцёл Карла Барамея, пабудаваны 210 гадоў таму, стаў адной з выдатнасцей архітэктуры Пінска і па праву заняў ганаровае месца сярод помнікаў, якія ахоўваюцца дзяржавай. Дзесяткі гадоў будынак быў па сутнасці нічыйным, разбураўся, і з'явілася пагроза яго знікнення. І вось у 80-х гадах нарадзілася ідэя ператварыць касцёл у канцэртную залу. Але ад ідэі да ўвасаблення яе ў жыццё прайшло доўгіх пяць гадоў. Менавіта столькі часу занялі рэстаўрацыйныя работы. Давераны заказ быў работнікам Пінскіх рэстаўрацыйных майстэрань. Складаныя праблемы рэстаўратары паспяхова пераадолелі, не без актыўнай дапамогі прамыслаўцаў ды проста дзелавых людзей.

Урачыстае адкрыццё залы прайшло па ўсіх правілах. Старшыня гарадскога Савета В. Цімошчанка, ганаровы грамадзянін Пінска хірург А. Макарэвіч і прадстаўнікі гарадоў-пабрацімаў разрэзалі стужку ля ўвахода ў залу і запрасілі прысутных на першы канцэрт. Начальнік рэстаўрацыйных майстэрань М. Прыходзька перадаў сімвалічны ключ ад канцэртнай залы яе дырэктару Я. Раманюку. А потым у касцёле з яго ідэальнай акустыкай загучала музыка ў выкананні артыстаў Брэсцкай філармоніі. Выступілі камерны аркестр пад кіраўніцтвам Аляксандра Мартыненкі, лаўрэат міжнародных конкурсаў баяніст Аляксандр Пылік, спявак Фёдар Богдан, ансамбль народных інструментаў, група салістаў. Гучалі творы Л. Бетховена, В. Моцарта, Г. Гендэля, П. Чайкоўскага, Б. Брытэна, І. Кальмана, рамансы і народныя песні.

Прысутныя на канцэрце пазнаёміліся і з выстаўкай работ пінскага мастака-графіка Мікалая Казлоўскага. Яго арыгінальныя карціны з відамі старога Пінска ўдала ўпісаліся ў інтэр'ер касцёла. Дарэчы, гэта першая канцэртная зала ў Брэсцкай вобласці і адна з нямногіх на Беларусі. Няхай жа тут гучыць музыка, дорачы людзям высокія пачуцці і натхненне.

С. ШАПІРА.

г. Пінск.

## Беларусы прымалі землякоў

На 20-ю сустрэчу беларусаў Паўднёвай Амерыкі былі запрошаны салісты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі І. Афанасьева, М. Скорыкаў, кампазітар З. Яўтуховіч ды паэт Л. Пранчак. Прымалі іх у гарадку Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі). Сама сустрэча адбылася ў Нью-Браунзвіку, дзе наладзілі канферэнцыю і вялікі канцэрт. За больш чым два месяцы гасцявання ў ЗША мінчукі не толькі пазнаёміліся з цікавымі прадстаўнікамі беларускай дыяспары, а і пабачылі ўжо знаёмыя твары, сустракалі там Г. Бураўкіна, В. Пархоменку... У Кліўлендзе ўдзельнічалі ў вечарыне, арганізаванай у гонар міністра замежных спраў Беларусі П. Краўчанкі, у зале бібліятэкі ААН выступалі, разам з актрысай Т. Мархель ды бардам С. Сокалавым-Воюшам, на ўрачыстасцях у гонар 110-годдзя Купалы ды Коласа, наведаліся да заўсёднікаў славянскага клуба «Радзіма». На канцэртах гучалі творы В. Раінчыка, З. Яўтуховіча, Я. Магаліфа, старыя беларускія патрыятычныя песні... Успамінаючы гасцінны прыём, пасланцы беларускай культуры з асаблівай удзячнасцю гавораць пра спадароў Л. Высоцкага, Я. Магаліфа, Ж. Навумчыка, М. Сеньку ды сям'ю Літаровічаў — нашых землякоў у далёкай Амерыцы.

## Госці з Італіі

Цёплы ўспамін пакінула ў мінчан выступленне італьянскага дырыжора Раду Йелесну і ягонай суайчынніцы спявачкі Жанны Бунiята з Акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі ды Акадэмічнай харавой капэлай імя Р. Шырмы; салісты Н. Руднева, А. Рудкоўскі, А. Міхайлаў. Прагучала Сімфонія № 7 Л. Бетховена і «Каранацыйная меса» В. Моцарта.

П. ГАРДЗІЕНКА.

## «Залатыя галасы»

Такую назву мае дзіцячы гурт салістаў пры Ізраільскім цэнтры ў Мінску. І гэта назва слушная: пяцёра хлопчыкаў пяюць, як вялікі хор дзяцей. Іх вельмі цёпла віталі ў Мінскім Доме афіцэраў, дзе ў перапоўненай зале адбываўся яўрэйскі фестываль сусветных традыцый, вечарына торы і музыкі. Імпрэза прысвячалася прыходу машыаха.

П. ПЯТРОЎ.

ВЫСТАВЫ

## Чатыры аўтары, чатыры творцы



Знаёмства з работамі. Фота аўтара.

Чатыры персанальныя выставы склалі новую экспазіцыю, што адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі ў Мінску. На суд гледачоў вынеслі сваю творчасць жывапісцы Іосіф Белановіч і Мікалай Кірэеў, керамісты Мікалай Байрачны і Леанід Панамарэнка.

Калі партрэты, пейзажы і нацюрморты І. Белановіча выкананы па класічных канонах жывапісу, то работам М. Кірэева характэрны графічнасць, лаканізм, стрыманасць колеравай гамы.

З творчасцю Л. Панамарэнкі гледачы не раз сустракаліся на шматлікіх выставах. Ён з'яўляецца адным з прадаўжальнікаў традыцый народнага ганчарнага мастацтва. У экспазіцыі — цудоўныя работы з чорна-глянцаванай керамікі. Цікавыя таксама яго дэкаратыўныя пласты для інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, лірычныя мініяцюры ў выглядзе роспісу керамічных плітак.

Творчасць М. Байрачнага заўсёды вызначалася глыбокай філасофскай думкай. З яго работамі «Гарачы вецер», «Кубікі для дарослых» і іншымі гледачы ўжо сустракаліся на рэспубліканскіх выставах. І сёння мастак застаецца верны выбранаму накірунку. Сярод яго новых работ цэнтральнае месца займае шматфігурная кампазіцыя «Пакуль зямля яшчэ кружыцца...»

Чатыры аўтары, чатыры творчыя канцэпцыі. І, думаецца, кожная знойдзе свайго гледача.

Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ.

ЛІТКУР'ЕР

## Юны цвет — «Першацвет»

У сям'і рэспубліканскіх літаратурных выданняў пабольшала. Выйшаў першы нумар часопіса «Першацвет» (рэдактар А. Масарэнка). З гэтай нагоды ў Доме літаратара адбылася ўрачыстая вечарына. Як і заўсёды ў падобных выпадках, прагучала нямала віншаванняў. «Першацветаўцаў» віталі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак, намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь С. Нічыпаровіч, намеснік генеральнага дырэктара выдавецтва «Беларускі Дом друку» Д. Навіцкі, галоўны рэдактар газеты «Чырвоная змена», ён жа генеральны дырэктар газетна-выдавецкай фірмы «Белая Русь», якая і дала зялёную вуліцу «Першацвету», У. Бельскі.

П. Пруднікаў прыгадаў гады ўласнай маладосці, калі таксама бруіліся юныя таленты, працуючы ў імя нацыянальнага Адраджэння.

Выступілі і аўтары «Першацвету» А. Дуброўскі, М. Капыловіч, К. Мяшкова, В. Насякайла і іншыя. Спявалі барды К. Геращчанка і В. Пазнякевіч. Сабраў апладысменты кампазітар З. Яўтуховіч...

Было свята, было знаёмства з першым нумарам «Першацвету».

КУЛЬТУРА

## Помнік пад Оршай

Гэты помнік з'явіўся пад Оршай нядаўна, 6 верасня гэтага года. Яго ўстанавіла моладзь з беларускіх патрыятычных суполак, якія з'ехаліся на другі фестываль святкавання гадавіны бітвы з маскоўскімі захопнікамі, што адбылася ў 16-м стагоддзі. Гэта была адна з бліскучых перамог нашых продкаў.

На Беларусі шмат гераічных мясцін. Помнік пад Оршай — першая ластаўка, якая дае надзею на адраджэнне нашай гістарычнай памяці. Бо народ, які не ведае свайго мінулага, не мае і будучыні.

Алесь ГУРЫНОВІЧ.




Фота А. МЕЛЬНІКАВА.

СУСТРЭЧЫ

## У памяць пра кампазітара

Імя кампазітара Юрыя Грыгор'ева сёння мала знаёмае нават у асяроддзі аматараў музыкі: ён загінуў каля 20 гадоў таму. Але вечар, які адбыўся ў Саюзе кампазітараў, адкрыў для многіх, які таленавіты творца і цудоўны чалавек жыў на нашай зямлі. Ён нарадзіўся ў Расіі, вучыўся на Украіне, а працаваў у Гомелі. Пранікнёна расказвалі пра сябра і настаўніка кампазітары К. Цесакоў, У. Прохараў, У. Буднік, Л. Гуцін; музыказнаўца В. Савіцкая пазнаёміла з творчасцю Ю. Грыгор'ева, прадставіла прысутным ягоных жонку, дзяцей. Кампазітару было б сёння толькі 50... Гучала на вечары ягоная музыка ў шчырым выкананні Б. Бергера, В. Солтан, А. Аляксеевай, Т. Сапегінай, В. Ляйко.

Н. ЗАХАРАВА.

ФЕСТЫВАЛІ

## Прэм'ера «Плачу перапёлкі»

20 лістапада ў Вялікай зале філармоніі адкрыўся традыцыйны фестываль «Беларуская музычная восень». Увагу грамадскасці прывабіў першы ж канцэрт, у якім прагучала прэм'ера сімфоніі У. Кандрусевіча «Плач перапёлкі». Кампазітар, стварыўшы музыку да вядомага тэлесерыяла, зноў і зноў перажываў уражанні ад трылогіі І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы», увасобленай на экране творчай групай рэжысёра І. Дабралюбава. Дарэчы, па заказе Фонду дапамогі развіццю культуры, які ўзначальвае І. Дабралюбаў, і пераўвасобіў свае ўражанні ў сімфанічны твор У. Кандрусевіч. «Плач перапёлкі» выканалі Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы (мастацкі кіраўнік Л. Яфімава), Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі на чале з маэстра В. Дуброўскім... А назаўтра зала вітала яшчэ аднаго знанага маэстра — М. Казінца, які дырыжыраваў Акадэмічным аркестрам імя І. Жыновіча. Вялізны поспех меў гэты канцэрт, і не дзіўна: з жыновічаўцамі выступаў іх даўні творчы сябра, славуты тэнар З. Саткілава. Свята музыкі працягваецца па ўсёй Беларусі.

## Гэты дзівосны Віцебск

Зноў у горад на Дзвіне з'язджаюцца музыкі: з 2 па 6 снежня тут пройдзе традыцыйны ўжо фестываль, прысвечаны памяці І. Салярцінскага. Сёлета ён прымеркаваны да 90-годдзя з дня нараджэння выдатнага музыказнаўцы, таму праграма як ніколі раней насычаная. Адбудуцца навуковыя чытанні, канцэрты з удзелам беларускіх выканаўцаў ды нашых гасцей; у выставачных залах разгорнуты цікавыя экспазіцыі.

ДРУК

## «Мастацтва», № 10

Сшытак «Эстэтыка» — гэта артыкул С. Бенякдзітава «Паміж «Я» і «Мы» і заканчэнне артыкула А. Малея «Законы пішуцца не намі...».

«Музыка» прадстаўлена справаздачай аб І Міжнародным фестывалі харэаграфічнага мастацтва «Я люблю балет» (Т. Мушынская, «Вяртанне ў Еўропу, або Я таксама люблю балет...»), артыкулам В. Брылон «Пра зацікаўленасць сапраўдную і ўяўную», гутаркай Т. Мушынскай з нямецкай мастачкай І. Шаар з г. Мюнстэра «Танец — гэта душа»; расказам пра II Міжнародны парад дыксілендаў...

А. Красінскі («Пазбаўленне міфаў»), В. Нячай («Стварэнне сябе»), чарговая падборка «Відэафана» — старонкі «Экрана».

Прадстаўнічы сшытак «Выяўленчае мастацтва»: «Залюстроўе» Галіны Гаравой», «Дзе мой край» В. Трыгубовіч, «Кубачак кавы» Л. Салодкінай, «Крывіцкія згадкі белых начэй» А. Кірвеля, «Камань і лёс» Г. Фатыхавай, «Як на споведзі» У. Пракапцова, «На варце культуры і духоўнасці» Г. Шымялевіч, «Пінакатэка класічнага авангарда» Я. Шунейкі.

Ёсць раздзелы «Мастацкае фота», «Падзеі, факты, інфармацыя».

## Апошні ў сёлетнім...

Да пачатку новага года, як вядома, яшчэ месяц, але часопіс «Тэатральная Беларусь» яго ўжо сустрэў — толькі што прыйшоў да чытачоў апошні, шосты сёлетні нумар.

У ім — п'еса «Дробязі» крытыка М. Яроша. Гэты твор прадстаўляе У. Дамашэвіч.

Надзённыя праблемы духоўнасці, нашага пачування сябе беларусамі закранае ў артыкуле «Адраджэнне» Ю. Беларуска. А. Савіцкая закранае пытанні творчыя — «Што ў крытыцы табе маёй?». «Усё пачынаецца з партытуры» — гутарка Т. Мушынскай з рэжысёрам М. Ізворскай-Елізар'евай.

У ліпені глядач пазнаёміўся з Мінскім тэатрам музычных асацыяцый «Метамарфозы». Пра гэты калектыў расказвае З. Лысенка — «Новы спектакль у новым тэатры». Р. Часнова ў развагах «Марыкс» гаворыць ухвальнае слова пра аднаго з тых, хто спрыяў адраджэнню беларускага нацыянальнага тэатра. Н. Швяцова («Кіеўскія сустрэчы») знаёміць са спектаклямі, пастаўленымі Р. Баравіком на ўкраінскай сцэне.

«Тураўскае Купалле» Я. Адамовіча — яшчэ адзін штрышок у скарбонку нацыянальных святаў. Т. Гаробчанка перагортвае асобныя нумары часопіса «Полацак». Вядзьмак Лысагорскі выступае з «Роздумам ля парадкай брамы». А. Марціновіч запрашае на паэтычнае свята ў Вязынку — «Прарока нам Бог даравў на Купалле...»

## «Пачатковая школа», № 9

У чарговым, дзевятым нумары «Пачатковай школы» (часопіс, на жаль, па-ранейшаму выходзіць са спазненнем) багата матэрыялаў, якія тычацца нацыянальнага Адраджэння, літаратуры. У прыватнасці, дэкан філалагічнага факультэта БДУ А. Лойка ў артыкуле «Мова: перспектыва ёсць!» дзеліцца думкамі адносна далейшых шляхоў беларусізацыі. (Дарэчы, гэтым артыкулам рэдакцыя пачынае новую рубрыку «Меркаванне»). Працягваецца публікацыя курса «Беларусазнаўства». С. Таляронак расказвае пра езуіцкія школы на Беларусі ў другой палове XVI—XVIII стст. Змешчаны сцэнарыі правядзення святаў «Жыве Скарыны запавет» і «Мы — скарынічы». Да 80-годдзя М. Танка прапануецца шэраг яго вершаў.

Укладыш мае назву «Каласкі Зоські Верас». Тут — артыкул А. Сторажавай і здымкі з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Зоські Верас.

## «Ітэкс» паказвае прыклад

Папрокі ў адрас прыватных выдавецтваў, што яны не надта спяшаюцца выпускаць беларускамоўную літаратуру, слушныя. Часцей за ўсё любяць яны паліграфічную «клубнічку» — ці з прыгодніцкім пахам, ці з сексуальным ухілам.

Але ёсць ужо, дзякаваць Богу, і выключэнне: фірма «Ітэкс». Яна толькі што выпусціла маляўніча аформленую, у вокладцы з прыпрасаванай плёнкай (фармат альбома) кніжку «Заклятыя скарбы». Яе склалі беларускія легенды і паданні, укладзеныя і перакладзеныя для дзяцей Уладзімірам Ягоўдзікам.



У тым, што ў «Ітэксу» выйшла беларуская кніга — заслуга дырэктара гэтай фірмы Вячаслава Болтача і яго намесніка Сяргея Каломенскага. Пазнаёміўся з імі У. Ягоўдзік, будучы галоўным рэдактарам газеты «Дзеці і мы». Тады «Ітэкс» выдзеліў газеце 10 тысяч рублёў (немалыя на той час грошы), выпісаў газету дзецям-інвалідам, сіротам, выхаванцам школ-інтэрнатаў, а таксама дзецям са шматдзетных сем'яў.

У асноўным фірма выпускае фоташпалеры, выдала некалькі кніг на рускай мове. Паявіліся сродкі. Цяпер, як кажуць, можна папрацаваць і на нацыянальнае Адраджэнне.

Рыхтуецца да выдання другая частка кнігі легенд і паданняў пад назвай «Смерць чараўніка». Першую афармляў мастак Аляксей Навіцкі. Цяпер фірма запрасіла да творчага супрацоўніцтва майстраў кніжнай графікі — Валерыя Славука, Анатоля Александровіча, Вячаслава Валынца, Уладзіміра Вішнеўскага. В. Славук, у прыватнасці, і будзе афармляць зборнік «Смерць чараўніка».

«Ітэкс» паказвае добры прыклад іншым. Хацелася б, каб з разуменнем паставіліся да гэтага і гандлёвыя арганізацыі. Першыя захады, праўда, і тут зроблены. 50 тысяч «Заклятых скарбаў» узяў «Белкаапсаюз», пяць тысяч — Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, тысячу-другую — асобныя кнігарні. А астатнія? Тыраж жа — 100 тысяч!

КОНКУРСЫ

## Спаборнічаюць віяланчэлісты

23 лістапада ў зале Беларускай акадэміі музыкі ўрачыста адкрыўся І Міжнародны конкурс маладых віяланчэлістаў. 24 удзельнікі з Латвіі, Беларусі, Расіі, Грузіі, у тым ліку стажоры музычных школ Швейцарыі, Германіі з'ехаліся на гэты прафесійны турнір. Сярод абавязковых твораў конкурснай праграмы — музыка І.-С. Баха, Ф. Шуберта, на другім туры ўдзельнікам прапануецца прадставіць твор кампазітара сваёй краіны... Зрэшты, умовы конкурсу — справа «ўнутраная». Прыхільнікам жа ды балельшчыкам будзе цікавы сам выпнік. А ён стане вядомы 30-га, калі ва ўрачыстай абстаноўцы будуць уручаны ўзнагароды лепшым. Уладальніка І прэміі чакае прыз у 30 тыс. рублёў ды званне лаўрэата, 24, 18 ды 12 тыс. — такія сумы прызначаны лаўрэатам II, III, IV прэмій. Пераможцы выступяць у суправаджэнні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра (дырыжор Ю. Цырук) на сцэне філармоніі. Арганізацыйны камітэт конкурсу ўзначальвае намеснік міністра культуры Беларусі У. Рылатка, старшыня журы — выдатная віяланчэлістка Н. Шахаўская.

АНОНС

## Заказвайце, калі ласка!

Многія нашы чытачы зацікавіліся кнігай В. Сіўчыка «Невядомая вайна супраць Беларусі», якая выходзіць у выдавецтве «Навука і тэхніка». Яшчэ раз нагадваем: заказаць яе можна, звярнуўшыся па адрасу: 220131, г. Мінск, абанементная скрынка 229.

# БЕЛАРУС У КАМАНДЗЕ «ЛЕНД-ЛІЗА»

**Валянцін ЛУКАШОЎ**

(Заканчэнне. Пачатак у нумары за 20 лістапада.)

Бацьку даводзілася часта бачыць Ф. Рузвельта, аднак пра нейкія асабістыя перамовы з ім ён не згадваў. У той жа час з яго першым памочнікам Гары Гопкінсам і іншымі членамі ўрада ЗША ён меў справы пастаянна. Многія з іх, дарэчы, былі вельмі яркімі асобамі (без гэтых памочнікаў Ф. Рузвельт, пэўна, не быў бы такім выдатным прэзідэнтам, якім ён увайшоў у гісторыю). Гэта, акрамя згаданага Гары Гопкінса, былі Бернард Барух, Эд Стэцініус, Джэймс Бернс, Дональд Нельсан, Аверэл Гарыман, Нельсан Ракфелер, Кордэл Хел, Уолес, Ікес і іншыя. Гэтыя імёны часта згадваліся ў бацькавых апавядах.

Самай незвычайнай асобаю быў Гары Гопкінс (1890—1946). Ён быў адным з самых энергічных прыхільнікаў рузвельтаўскай палітыкі так званага новага курсу, і актыўна ажыццяўляў гэты курс. У гады вайны Гопкінс стаў відным дзяржаўным дзеячам і дыпламатам, які адыграў вялікую ролю ў выпрацоўцы многіх рашэнняў урада ЗША. Многія лічылі яго «другім я» прэзідэнта. Жывы, сабраны, прадбачлівы, смелы, адчайны, сапраўдны сарвігалава, Гопкінс за ўсіх адносінах з'яўляўся несумненным фаварытам Рузвельта.

Па сведчаннях сучаснікаў, ён быў худы, з вострымі рысамі твару і пранізлівымі вачыма. Быў надзвычай хваравітым чалавекам. Перад вайной яму паставілі дыягназ: рак страўніка і цыроз печані. Аднак ён не пацвердзіўся. Пасля яго смерці ў студзені 1946 года ўскрыццё паказала, што ён памёр ад хваробы, якая мае назву гемахраматозіс і якая ўзнікае ў выніку няправільнай дзейнасці стрававальных органаў.

Яму даводзілася значную частку часу праводзіць у бальніцы і ў пасцелі, але і адтуль ён актыўна і энергічна выконваў ускладзеныя на яго абавязкі.

Да таго, як Гопкінсу было даручана весці справы па ленд-лізе, у яго не было вопыту работы па пытаннях вытворчасці, транспарту, чарговасці, размеркавання і г. д. Але ён валодаў здзіўляючай здольнасцю хутка схопліваць сутнасць, размаўляць з людзьмі, якія валодалі ведамі, і рашаць, хто мае рацыю і хто памыляецца.

Адзін амерыканскі адмірал прысвоіў Гопкінсу ганаровае званне «генералісімус брыгады штурхачоў». Р. Шэрвуд пісаў, што гэта была вельмі дакладная характарыстыка: Гопкінс здаўна вызначаўся настойлівасцю.

У зносінах з Гопкінсам бацька вучыўся дамагацца ад амерыканскай прамысловасці неабходных нашай краіне паставак.

Гопкінс дзяліў людзей на тых, што «гавораць», і на тых, што «робяць». Бацьку ён адносіў, напэўна, да тых, што «робяць», бо праяўляў да яго сімпатыю. Гопкінс часам прыязджаў да нас абедаць. Званіў і казаў: «Канстанцін, я хацеў бы сёння ў цябе паабедаць. Трэба пагаварыць!» Такія нечаканыя візіты давалі *нямала клопатаў маме і хатняй работніцы.*

Аднойчы Канстанцін Ігнатавіч падараваў Гопкінсу да нейкага свята бляшанку ікры. Праз дзень ён напаткаў бацьку і спытаў: «Адгадай, Канстанцін, хто яшчэ ў Белым доме еў тваю ікру?» І дадаў шматзначна, з усмешкай: «Сам *таксама* яе еў!»

Для Гопкінса не мела значэнне сацыяльнае паходжанне чалавека, галоўнае — яго дзелавыя якасці. Таму лёсам было наканавана, каб за адным сталом сядзелі сын рымара з Айавы і сын беднага беларускага селяніна, сядзелі і дружалюбна абмяркоўвалі пытанні хутчэйшага разгрому германскага фашызму. Але калі Гопкінс піў няшмат, дык куды цяжэй было з адным буйным амерыканскім вайскоўцам, ад якога залежалі пастаўкі. Ён любіў «сербануць» і быў здаровы, як вол. Дзелавыя выпіўкі з ім ператвараліся ў суцэльныя пакуты: больш за ўсё на свеце бацька цаніў цвярозы розум і разважлівасць, ненавідзеў п'янства.

Даючы ацэнку 55 «вялікім людзям» вашынгтонскай адміністрацыі ў 1942 г., У. Кіплінджэр зазначае: па сваім маёмасным становішчы яны ў большасці сваёй належалі да сярэдняга класа — былі ні багатыя, ні бедныя. З іх толькі сямёра нарадзіліся, як амерыканцы кажуць, з сярэбранымі лыжкамі ў роце (Маргентаў, Стымсан, Ракфелер, Стэцініўс, Гарыман, Уэлес, Тэйлар). Іх сярэдні ўзрост быў 52,4 года. Нікога не было маладзейшага за трыццаць гадоў (малодшым быў Ракфелер у свае 33). З 55 кіраўнікоў 44 скончылі коледжы, 5 хадзілі, але не скончылі, і 6 чалавек дасягнулі высокіх дзяржаўных пасад, не маючы вышэйшай адукацыі.

Майму бацьку ў 1942 годзе было 35, ён хадзіў у маладых. Вылучала яго ўмельства вучыцца і працаваць над сабой. Ён таксама хутка засвоіў лепшыя рысы кіраўнікоў амерыканскай адміністрацыі — энергічнасць, пунктуальнасць, стрыманасць, ураўнаважанасць, працаздольнасць. Зрэшты, усё гэта было, пэўна, закладзена ў яговым характары ад нараджэння.

На фотаздымках ваеннага часу бацька выглядае тыповым амерыканскім бізнесменам і адміністратарам. У гады вайны ён курыў люльку. Дома і ў ягоным кабінеце, акрамя таго, заўсёды былі добрыя цыгары. Ён частаваў імі гасцей і сам курыў у такіх выпадках. (Адразу ж па вайне ён кінуў курыць).

У ЗША максімальнае пацвярджэнне атрымала прымаўка «Час — грошы». Пунктуальнасць амерыканскага бізнесмена класічная. У другой сусветнай вайне фактар часу меў куды большае значэнне, чым у першай. Недарэмна Ф. Рузвельт у адным са сваіх зваротаў да кангрэса ў студзені 1942 года, неўзабаве пасля нападу Японіі на Пірл-Харбар, гаварыў: «Страчаную тэрыторыю можна заўсёды вярнуць, але страчаны час ніколі нельга вярнуць. Тэмпы ўратуюць жыццё людзей, тэмпы ўратуюць нашу краіну, якая апынулася ў небяспецы, тэмпы ўратуюць нашу свабоду і цывілізацыю...» Гэтыя словы былі выкліканы тым, што Германія і Японія былі значна лепш падрыхтаваны да вайны, чым ЗША і Англія. Апошнія вымушаны былі максімальна мабілізавацца і зрабіць нязробленае.

Бацька заўсёды шанаваў час, у сталыя гады — асабліва.

У 1942 годзе была створана Савецкая ўрадавая закупачная камісія для вядзення спраў па ленд-лізе. У яе ўвайшлі савецкія супрацоўнікі «Амгандлю», якія знаходзіліся ў ЗША. Бацька быў прызначаны намеснікам старшыні гэтай камісіі (апошні быў прафесійным вайскоўцам).

У канцы мая таго ж года ў Вашынгтон інкогніта прыязджаў на некалькі дзён В. Молатаў. Быў ён там пад імем «пан Браўн». Афіцыйна пра яго паездку было паведамлена толькі пасля вяртання ў Маскву. У час перамоў з амерыканскімі дзяржаўнымі кіраўнікамі важнейшае месца займалі пастаўкі ЗША нашай краіне.

У сувязі з заканчэннем тэрміну першага пратаколу, які быў заключаны за дзевяць месяцаў да прыезду ў Маскву Біверберука і Гарымана, новая праграма дапамогі па ленд-лізе набывала сілу з 1 ліпеня 1942 года.

Другі пратакол, які распрацоўваўся пры ўдзеле штабоў у Вашынгтоне і Лондане, павінен быў уключаць у сябе пастаўкі ў аб'ёме 4100000 тон, у тым ліку 1800000 тон — самалёты, танкі, гарматы, а 2300000 тон — агульныя пастаўкі. Аднак у часе перамоў з Молатавым амерыканцы заявілі, што ў сувязі з адкрыццём другога фронту ім неабходна вызваліць шмат марскіх суднаў, таму яны хацелі б зменшыць аб'ём паставак, праўда, не за кошт самалётаў, танкаў і гармат. Молатаў адказваў, што паведаміць пра гэта савецкаму кіраўніцтву, але спадзяецца, што пастаўкі металаў, чыгуначных матэрыялаў і іншых не будуць зменшаны, бо гэта адаб'ецца на савецкім тыле, на рабоце электрастанцый, чыгункі, прамысловасці, аслабіць той фронт, які зараз адзін стрымлівае немцаў.

У святле гэтых перамоў савецкай закупачнай камісіі ў Вашынгтоне трэба было дамагацца ад саюзнікаў паставак усіх відаў неабходных нам тавараў.

Бацька развіў уласцівую яму энергію, ды так, што аднойчы сам павялічыў аб'ём паставак, нягледзячы на тое, што на дакуменце, які вызначаў іх колькасць, ужо стаяў подпіс Сталіна. Праз нейкі час на яго імя прыйшла ад самога Сталіна тэлеграма. У ёй ён досыць ветліва (гэта асабліва запомнілася бацьку) прасіў так больш не рабіць.

Другая асабістая тэлеграма ад Сталіна, якая зберaглася ў бацькавай памяці, тычылася неабходнасці дамагчыся ад ЗША павелічэння пастаўкі медзі нашай краіне.

Бацька адразу ж ішоў да Джэмса Бірнса і прасіў у яго медзь і іншыя неабходныя металы. Той даставаў свае тоўстыя гросбухі, паказваў іх бацьку і гаварыў, што ў іх больш няма свабодных запасаў. Карацей кажучы, бацьку даводзілася «прабіваць» гэтае пытанне, быць штурхачом, ціснуць на амерыканцаў. І праблема ўрэшце вырашалася. Для гэтага трэба было валодаць дастатковымі ведамі, увесь час папаўняць іх. Напэўна, ён гаварыў Бірнсу, што яму вядома, што ЗША павялічылі імпарт медзі з Мексікі, што ПАР зменшыла здабычу золата і за кошт пераводу часткі сіл сваёй горназдабываючай прамысловасці стала здабываць больш медзі, што ўрад ЗША даплачвае датацыі амерыканскім прамыслоўцам за другаснае выкарыстанне медзі. Акрамя гэтага, у ЗША актыўна дзейнічае карпарацыя па другасным выкарыстанні медзі. Гэта значыць, што медзь у ЗША ёсць і што яе абавязкова трэба паслаць у СССР для хутчэйшага дасягнення агульнай перамогі над фашызмам.

Пра ашчадныя адносіны амерыканцаў да металаў у час вайны можна меркаваць па наступным факце: 13 красавіка 1943 года ў гонар 200-годдзя з дня нараджэння Томаса Дэзферсана быў адкрыты яго мемарыял. Аднак з-за недахопу металаў яго статуя была зроблена спачатку з гіпса, і толькі 25 красавіка 1947 года яна была заменена бронзавай.

Для ваеннай прамысловасці патрэбна была не толькі медзь. Як падлічыў акадэмік Ферсман, у танкавых баях «удзельнічае» да 30 хімічных элементаў, якія неабходны для выпуску матораў, брані, боепрыпасаў, а ў паветраных баях колькасць іх узрастае да 46. Сучасная тэхніка вымагае яшчэ большай колькасці хімічных элементаў.

Для арганізацыі паставак па ленд-лізе бацьку даводзілася звяртацца непасрэдна ў фірмы і асабіста ездзіць па ЗША. Пры гэтым значная частка шляху прыпадала на самалёт. У гонар таго, што ён налятаў процьму кіламетраў, амерыканская авіякампанія выдала яму нешта накшталт ганаровага дыплома-сертыфіката і падаравала вялікі фотаздымак «Дугласа». Гэты фотаздымак доўга стаяў на рабочым стале ў бацькі і пасля вяртання ў Маскву.

У часе адной з такіх паездак бацька наведаў гідраэлектрастанцыю Болдар-Дэм. Праблема энергетыкі ў гады вайны мела першаступеннае значэнне, амерыканцы дэманстравалі сваю моц. Гэтая *паездка запомнілася бацьку нейкім рэстаранчыкам,* гаспадар яго сімпатызаваў Савецкаму Саюзу і зберагаў калекцыю рэчаў, звязаных з нашай краінай. У часе наведання амерыканскіх заводаў бацька звяртаў увагу на парадак, што панаваў там, на тое, што рабочыя не адрываліся ад работы і не звярталі на гасцей ніякай увагі. Ён прыгадваў гэта пасля таго, як аднойчы ў Мінску яму давялося суправаджаць карэйскую дэлегацыю на трактарны завод. Паглядзець на гасцей збегся ўвесь завод, дэлегацыя хадзіла па цэхах у суправаджэнні велізарнага натоўпу, у выніку чаго праца ўсяго прадпрыемства была прыпынена на некалькі гадзін.

Даводзілася наведваць бацьку і амерыканскія навукова-даследчыя лабараторыі. Тут таксама было шмат цікавага: прыборы, парадак, забеспячэнне. Здзіўляла ўпартасць, з якою вяліся і фінансаваліся на працягу дзесяцігоддзяў даследаванні па атрыманні, напрыклад, нейлона ці штучнай скуры. Гэта былі вельмі складаныя задачы, без хуткай аддачы затрачаных сродкаў. Затое поспех акупляўся з лішкам.

У Вашынгтоне мы жылі спачатку ў прыгарадзе, у Бетэсдзе-Мэрыленд, у невялікім, але ўтульным двухпавярховым доме-катэджы з чырвонай цэглы. Ля дома—гараж і невялікі лужок (неад'емны атрыбут амерыканскага быту), побач з гаражом былі клумбы з півонямі і гартэнзіямі, а таксама альтанка, у якой бацька, моцна стомлены за дзень, часам увечары піў чай па-амерыканску (з кавалачкамі лёду) альбо піва.

У 1943 годзе, улетку, здаецца, Грамыку прызначылі паслом у ЗША. Гэтая падзея нам запомнілася тым, што ў дзень паведамлення аб гэтым прызначэнні сям'я Грамыкі (яго жонка Лідзія Дзмітрыеўна, дзеці Анатоль і Міла) ратавалася ў гэтым нашым доме ад амерыканскіх журналістаў, ад іх настойлівасці і бесцырымоннасці. Гэты выпадак красамоўна сведчыць аб тым, што за гады сумеснай работы ў ЗША ў двух беларусаў, майго бацькі і Грамыкі, склаліся сяброўскія адносіны.

У тым жа 1943 годзе супрацоўнікі закупачнай камісіі вырашылі, што ў прэзідэнта «Амгандлю» і ў яго намесніка павінен быць больш прэзентабельны дом. Бацька адмаўляўся, казаў, што ў часе вайны пераязджаць у большы дом нясціпла і стратна, аднак супрацоўнікі настаялі на сваім. І неўзабаве наша сям'я пераехала на Крытэндэн стрыт, 1614.

У пачатку сорак трэцяга сям'я пабольшала—нарадзілася Іра. Нязвычнай асаблівасцю раддомаў у Амерыцы, як расказвалі бацькі, было тое, што да парадзіхі амаль адразу ж пасля родаў пускалі бацьку дзіцяці і паказвалі ў шкляным боксе новаароджанага. У тыя гады пры родах там ужо выкарыстоўваліся анестэзіялагічныя сродкі. У гонар дачкі бацька атрымаў дадатковыя талоны на паліва, якіх не далі, дарэчы, англійскаму паслу. У Вашынгтоне тым часам панавалі дэмакратычныя традыцыі, іх стараліся дэманстраваць. Напрыклад, жонка Рузвельта сціпла стаяла са сваёй машынай у вялікіх чэргах на запраўках. Аднойчы маёй маці давялося ехаць з ёй у звычайным цягніку, у адным вагоне, у суседнім купэ.

Праўда, гэтыя традыцыі, якія крыху абмяжавалі англійскага пасла, не перашкодзілі, аднак, таму, што Вялікабрытанія атрымала па ленд-лізе амаль у тры разы больш паставак, чым СССР, які вынес на сабе асноўны цяжар вайны з гітлераўскай Германіяй.

Работа па ажыццяўленні паставак была надзвычай складанай сама па сабе. У дадатак яе часта правяралі ваенныя кіраўнікі, розныя камісіі з Масквы. Часам узнікалі непаразуменні.

Аднойчы бацька затрымаў адпраўку неўкамплектаваных танкаў. Гэта магло быць звязана з нясвоечасовым выкананнем дамовы падрадчыкам, а мог быць і сабатаж—у Амерыцы былі ўсялякія людзі. Тым не менш трэба было дамагацца ад іх укамплектаванай і якаснай прадукцыі. Генерал, які правяраў работу па адпраўцы, пачаў быў патрабаваць адпраўкі танкаў у любым выглядзе. Бацька адмовіўся, заявіўшы, што не можа адпраўляць машыны, набітыя саломай дзеля таго толькі, каб яны лічыліся адпраўленымі. Спрэчка скончылася на высокіх тонах. Генерал адправіў на бацьку ў Маскву заяву. Там падтрымалі бацьку, але ўсё гэта вымагала нерваў.

Наколькі закупачная работа ў тыя гады была складанай, паказвае выпадак з закупкай каўчука. Дзеля яго закупу і вывучэння амерыканскага вопыту яго вытворчасці ў ЗША была паслана спецыяльная савецкая камісія. Яе супрацоўнікі добрасумленна *пазнаёміліся* з усім і правялі неабходныя гандлёвыя перамовы. Як расказваў бацька, яны пунктуальна выконвалі ўсе інструкцыі, яе кіраўнік не зрабіў без узгаднення з Масквою ані кроку. Тым не менш члены камісіі, а таксама паасобныя кіраўнікі аддзелаў у Маскве былі пакараны і *рэпрэсаваны. Чаму? К таму часу* ў СССР быў наладжаны выпуск свайго штучнага каўчуку, і ім інкрымінавалі жаданне нанесці шкоду сваёй краіне шляхам затрымкі развіцця айчыннай вытворчасці.

Бацьку ў сувязі з гэтым таксама давялося ануляваць заказы на каўчук у *фірмы «Дзюпон».* Неяк ён з гэтага выпадку сумна зазначыў: «Жыццёвыя сітуацыі часам такія складаныя, што нават стопрацэнтнае выкананне інструкцый не ратуе ад непрыемнасцей. Таму,—дадаў ён,—лепш за ўсё быць у жыцці самім сабой...»

Вайна звязана з бесперапынным абнаўленнем тэхнікі, з яе мадэрнізацыяй. Кіраўнік упраўлення па справах ваеннай вытворчасці ЗША Нельсан аднойчы ахарактарызаваў маштабы франтавых страт наступным чынам: «Калі мы пасылаем за акіян 100 гармат, мы павінны дадаткова паслаць яшчэ 60 гармат на замену тых, што будуць пашкоджаны ці страчаны на працягу года. На кожныя 100 кулямётаў мы павінны паслаць на замену яшчэ 85». На думку Нельсана, грузавікі выбываюць са строю на фронце за некалькі месяцаў. Тэрмін службы абутку скарачаецца ў дзесяць разоў. (Амерыканскія салдаты ў Сіцыліі знашвалі чаравікі за тры дні). Адбываўся таксама хуткі маральны знос тэхнікі. У ваюючых краінах тэрмінова распрацоўваліся канструкцыі новых відаў танкаў, самалётаў, машын і рознага абсталявання.

У другой палове вайны асаблівае значэнне пачалі набываць радары. Яны былі вынайдзены і эксперыментальна распрацоўваліся ў Вялікабрытаніі, ЗША, СССР і іншых краінах яшчэ ў 30-я гады. Выпуск іх быў хутка наладжаны. Савецкая закупачная камісія атрымала заданне закупіць гэтую тэхніку для нашай

краіны. Бацька ўжо меў кантакты з фірмай, якая выпускала радары. У яе праўленні працаваў добра знаёмы яму яўрэй, ураджэнец Беларусі, з-пад Гомеля. Фірма гатова была прадаваць нам радары і наогул усё, што яна выпускала, але трэба быў дазвол урада ЗША. Бацька рабіў адпаведныя запыты. Чалавек, да якога ён звяртаўся, адказваў: «Асабіста я гатовы прадаваць вам радары, але хай пазвоніць прэзідэнт і скажа: «Арнольд (пэўна, гаворка ішла пра генерала Арнольда, які займаўся ваенна-паветранымі сіламі ЗША), прадай рускім радары». Тады калі ласка!» Але ні прэзідэнт, ні дзяржпэпартамент такога дазволу не давалі. Саюзнік пачынаў больш стрымана адносіцца да продажу нам не толькі самай сучаснай тэхнікі, але і больш простых рэчаў. У сваіх мемуарах А. Грамыка прыводзіць выпадак, калі група нашых лётчыкаў марна з'ездзіла ў ЗША, так і не атрымаўшы прыбора, які на той час ужо не быў вялікім сакрэтам.

Нарэшце, варта дадаць, што, як стала вядома пазней, з 6 снежня 1941 года ЗША распрацоўвалі праект стварэння атамнай бомбы, што старанна аберагалася ад усіх саюзнікаў, найперш рускіх. Той жа Г. Гопкінс меў дачыненне да праекта, ён уваходзіў у камісію, але я не сумняваюся, каб нават пры самых цёплых адносінах з бацькам ён калі-небудзь хоць бы намякнуў пра гэта.

Ад прыроды прадбачлівы, бацька ўвогуле трымаў руку на пульсе амерыканска-савецкіх адносін і дапамогі па ленд-лізе. Ён своечасова пачаў разумець, што па меры набліжэння перамогі паміж нашымі краінамі складваюцца новыя адносіны. Не мог ён, маючы справу з палітыкамі, не разумець і таго, што ў палітыцы няма сяброў: ёсць толькі людзі з агульнымі інтарэсамі. На жаль, інтарэсы нашых краін у палітыцы пачалі разыходзіцца.

Ішоў 1944 год. Перамога над фашысцкай Германіяй не выклікала сумненняў. Наша армія граміла нямецкія орды на палях Еўропы. Саюзнікі ліхаманкава спяшаліся адкрыць другі фронт, пакуль яшчэ не скончылася вайна. Ваенная прамысловасць СССР набрала моцы. Значэнне ленд-ліза і амерыканскай дапамогі зменшылася. Прайшло 5 гадоў работы бацькі ў Амерыцы. Ён прасіў, каб яго адклікалі дадому. Трывожыў лёс бацькоў, перажыўшых акупацыю. Немцы спалілі Гарадзец (вёска згадваецца на могілках вёсак у Хатыні). Мае дзед з бабуляй некалькі сутак сядзелі на балоце ў ледзяной вадзе, хаваючыся ад карнікаў. Бабуля неўзабаве захварэла і памерла, бацьку так і не суджана было ўбачыць яе. Ён гаварыў, што ў дзень смерці маці бачыў яе ў сне. Расказвалі, што і яна перад смерцю ўспамінала свайго Косцю.

Прафесія гандляра, як бацька называў сваю работу, паступова абрыдзвала яму. У дадатак яму, бадай, не хацелася ўдзельнічаць у дэмантажы добрых амерыканска-савецкіх адносін, дзеля развіцця і наладжвання якіх ён аддаў столькі сіл. Усё больш яго вабіла і навука. Ён купляў шмат кніг па геалогіі, эканоміцы, геаграфічных дысцыплінах, усялякія хімічныя даведнікі. На жаль, на мытні была затрымана Брытанская энцыклапедыя, як забароненая для ўвозу ў СССР. Бацька вельмі шкадаваў аб гэтым, бо ўсё жыццё карыстаўся энцыклапедыямі, асабліва ВСЭ.

Адклікалі яго ў Маскву ўлетку 1944 года. Ён вяртаўся на самалёце праз Сібір. Там пераканаўся, наколькі шырока былі распаўсюджаны ў нашай краіне амерыканскія прадукты (тушонка, парашковае малако, яечны парашок і інш.), якія пастаўляліся нам па ленд-лізе. Бацька заўсёды быў супраць іранічных адносін да гэтай часткі ленд-ліза, лічыў гэтую дапамогу не менш важнай, чым гарматы і самалёты. Ён гаварыў: «Галодныя не могуць ваяваць, нават пры самай дасканалай тэхніцы!» Пэўна, мала хто ведаў тады, а тым больш зараз, што славутая ў гады вайны амерыканская тушонка рабілася па рэцэпце... А. Мікаяна! Амерыканцы дапамагалі многім народам з самай разнастайнай нацыянальнай кухняй. Для многіх з іх рускія былі невядомым народам. Таму і папрасілі савецкі бок самому прапанаваць, што трэба пастаўляць. У распрацоўцы «меню» і ўдзельнічаў А. Мікаян з супрацоўнікамі свайго міністэрства.

Зрэшты, ленд-ліз пакінуў у нашай краіне нямала і іншых слядоў. Напрыклад, на базе ленд-лізаўскага завода па рамонце машын у свой час вырас Мінскі аўтазавод.

На жаль, пасля вайны у нас сталі зводзіць ленд-ліз і амерыканскую дапамогу практычна толькі да тушонкі. Такая інтэрпрэтацыя ішла, пэўна, з падачы самога Сталіна. «Зробленае дабро не мае кошту», гаворыць усходняя мудрасць. Таму, бадай, больш аб'ектыўная тая ацэнка амерыканскай дапамогі, якую даў той жа Сталін у цяжкія для нашай краіны лістападаўскія дні 1941 года. Я памятаю, што тады ён пісаў у тэлеграме Рузвельту з выпадку рашэння ЗША прадаставіць СССР пазыку ў адзін мільярд долараў на аплату паставак зброі і стратэгічнай сыравіны: «...Савецкі ўрад прымае са шчырай удзячнасцю, як выключна сур'ёзную падтрымку Савецкага Саюза ў яго велізарнай і цяжкай барацьбе з нашым агульным ворагам, з крывавым гітлерызмам». Ленд-ліз быў сапраўды сур'ёзнай падтрымкай. Напэўна, гэтую дапамогу цяжка вымяраць толькі ў грашах. На фоне страт, прынесеных вайною, дапамога гэтая сапраўды нязначная: 679 мільярдаў рублёў і 10—11 мільярдаў долараў (у рублях). Невялікая яна і на фоне агульных затрат ЗША у другой сусветнай вайне: прыкладна 400 мільярдаў долараў. Разам з тым яна досыць сур'ёзная на фоне 20 мільярдаў долараў, якія ўрад ЗША ўкалў у развіццё сваёй ваеннай прамысловасці. Досыць вялікая яе вага і ў агульнай суме ленд-ліза: толькі адна Вялікабрытанія атрымала больш за нас. Неабходна пры ацэнцы ўлічваць і фактар часу: лыжка дарагая ў абед. Амерыканская дапамога асабліва патрэбна была менавіта ў першыя гады вайны, да 1943 года. Урэшце, трэба ўлічваць і маральны фактар дапамогі, які наогул немагчыма вызначыць у доларах, кілаватах, джоулях і г. д. Разам з тым, самая аб'ектыўная ацэнка ленд-ліза, безумоўна, не змяншае таго факту, што галоўны цяжар вайны вынес наш народ, і хрыбет гітлераўскай ваеннай машыне быў пераламаны на ўсходнім фронце.

Пасля вяртання ў Маскву для бацькі пачалася пара сур'ёзных справаздач. Самай сур'ёзнай з іх была на Камісіі партыйнага кантролю ЦК, куды былі запрошаны таксама асобныя супрацоўнікі, што працавалі з ім у ЗША. Яны давалі паказанні па вынесеных на абмеркаванне пытаннях. На пасяджэннях камісіі была адзначана важная роля бацькі ў справе мабілізацыі калектыву ў першыя дні і месяцы вайны. Па адрасе прэзідэнта «Амгандлю» і яго намесніка было сказана: «Да вас прэтэнзій няма!» Бацька запомніў гэтую фразу на ўсё жыццё. Незадоўга да смерці, на сустрэчы з моладдзю ў Інстытуце геахіміі і геафізікі АН БССР у яго запыталі, які дзень у ягоным жыцці быў самы шчаслівы. І бацька назваў менавіта той дзень.

Праз нейкі час бацька прысутнічаў на пасяджэнні Палітбюро, на якім разглядаліся пытанні нашых узаемаадносін з ЗША. Як ён пасля любіў жартаваць, гэта быў адзіны выпадак у ягоным жыцці, калі, пры ўсёй ягонай пунктуальнасці, ён спазніўся: ахова правярала яго гэтак доўга, што калі нарэшце прапусціла, пасяджэнне пачалося ўжо. Заходзіў у залу—было адчуванне чалавека, гатовага праваліцца скрозь зямлю. Дакладчык прымоўк, усе прысутныя павярнуліся і пачалі глядзець на бацьку. А. Мікаян назваў яго: «Гэта таварыш Лукашоў!»— і пасяджэнне прадоўжылася. Аднак на гэтым бацькавы прыгоды не скончыліся. Супрацоўнік Молатава, дыкладваючы пытанне, дапусціў шэраг недакладнасцей. Бацька папрасіў пасля яго слова і ўказаў на гэта. Ён не ведаў, што тады на пасяджэннях Палітбюро не прынята было наладжваць дыскусіі. Калі яна ўзнікала, пытанне лічылася недапрацаваным і здымалася. А. Мікаян пахваліў бацьку, тым не менш быў крыху збянтэжаны. Скончылася тым, што на наступны дзень бацька зноў прыехаў з Мікаянам у Крэмль, там яны сустрэліся з Молатавым і тым яго супрацоўнікам і ва ўсім разабраліся.

Па выніках сваёй камандзіроўкі бацька некалькі разоў выступаў на калегіі Міністэрства знешняга гандлю. Ён таксама напісаў вялікую справаздачу ў выглядзе манаграфіі аб палітыцы, эканоміцы і рэсурсах ЗША.

Нарэшце прыйшоў доўгачаканы дзень Перамогі, дзеля якой усе савецкія людзі кожны на сваім месцы, аддавалі доўгія гады ўсе свае сілы. У сорак пятым бацьку ўзнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг». Адразу пасля вайны ён павінен быў атрымаць і ордэн Леніна, але ў спісе па віне машыністкі ў чыімсьці прозвішчы была зроблена памылка. У выніку ўвесь спіс, каля трыццаці чалавек, быў ануляваны, ніхто нічога не атрымаў. Тады з узнагародамі паступалі крута, і не толькі з узнагародамі!

У гады вайны ў бацькі быў чын палкоўніка. Як намеснік старшыні закупачнай камісіі (старшыня быў генералам), бацька павінен быў мець адпаведны чын. Аднак пасля вайны выявілася, што дакументы, якія пацвярджалі б гэта, згублены. У ваенкамаце не ведалі, што рабіць, падышлі да пытання фармальна, сказалі, што могуць зарэгістраваць у такіх абставінах толькі радавым. Бацька махнуў рукой і адказаў: «Бог мой, зрабіце радавым!» Ваенныя чыноўнікі з палёгкаю ўздыхнулі і выдалі яму ваенны білет на імя радавога Лукашова Канстанціна Ігнатавіча. У такім званні ён застаўся да канца свайго жыцця.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# Цяпер нам трэба ўсім паразумецца

## Адкрыты ліст Лявону Шпакоўскаму-Случаніну

Шаноўны спадар Лявон Раманавіч!

Атрымаўшы Вашую паштоўку, мушу адказаць Вам праз газету, бо, папершае, Вы не паведамілі свайго адрасу, а падругое — нашае завочнае знаёмства пачалося на газетнай тэрыторыі і набыло публічны рэзананс, таму і вымагае адпаведнага працягу.

Вы спасылаецеся на артыкул П. Навойчыка «Ведаць праўду пра пісьменнікаў» («ЛіМ», 18.09.92 г.). Пераказваючы маё выступленне перад слухачамі Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры, П. Навойчык піша: «Так, робіцца страшна, але — слухайце, нашы госці, нашы сябры, слухайце і пастарайцеся зразумець. НКУС зламаў ці не ўсіх...» Не, не ўсіх, — пярэчыць Георгій Колас.

— Быў адзін, каго не змаглі зламаць — Лявон Случанін!».

Вы пытаецеся, на аснове чаго я зрабіў такое заключэнне і якое значэнне надаю слову «зламаць».

Пра Вас я ўпершыню даведаўся таксама з «ЛіМа», з артыкула Л. Савік. Там цытаваліся Вашы адказы на допытах у КДБ, з якіх вынікала, што Вы не пабаяліся выказаць мужную праўду пра раскулачванні, пра калектывізацыю, якая была трагедыяй народа. Гэтак смела і адкрыта ніхто з вядомых мне беларускіх пісьменнікаў **на допытах** не ўмеў трымацца. Вы — адзін. За тое дзякуй Вам.

Мне спадабалася і тое, што Вы адмовіліся падаваць на рэабілітацыю (а суддзі — хто?).

Нядаўна прачытаў у «Мінскай праўдзе» палеміку, якая разгарэлася вакол Вашага імя. Што тут сказаць?

Ад камуністаў шмат маёй радні загінула.

Хто выжыў — гінуў ад фашыстаў.

Каб Вы ведалі, як гідка мне было чытаць у творах беларускіх аўтараў, што здраднікамі ў акупацыі былі перш-наперш кулакі. Адкуль яны маглі тут апынуцца?

Не бяруся маралізатарстваваць адносна Вашай біяграфіі. Скажу адно: не ведаю ні аднаго з нашых (раскулачаных, сасланых), хто б на фронце здаўся немцам, перайшоў бы на той бок.

Гаротны гістарычны парадокс: наш хутарскі сусед на Чэрвеньскай радзіме і дружбак па ссылцы Ілля Савіч вызваляў ад немцаў свой Куцень і наш Куцень, забраныя ад нас бальшавікамі. Вызваляў, каб потым зноў вярнуцца ў высылку, з цяжкім раненнем, інвалідам другой групы. Там ён і памёр. На бацькава пытанне,а ці не прыходзіла такое ў галаву, каб здацца немцам, адказаў: «Бярог апошні свой патрон — сабе, каб не было ў каго падставы напісаць, што здаўся — бо кулак».

Не камунізм ён нёс на Беларусь з далёкай Поўначы. Ён нёс — сваё жыццё. А камунізм вяртаўся на плячах ягоных.

Сябра мой, старэйшы за мяне на пяць гадоў, Іван Захарчанка, расказваў, як ён вызваляў Азарыцкае пекла, — як няшчасныя знямоглыя жанчыны заліваліся слязьмі, паўзлі да ног салдацкіх, каб пацалаваць у боты...

А цяпер мяркуйце самі, як успрынялі б яны радкі з тае газеты, якую Вы, Лявон Случанін, тут рэдагавалі, — пра вяртанне нашай (так — Чырвонай, так — камуністычнай, але ж — нашай) арміі.

Цяпер нам трэба ўсім паразумецца.

Бо інакш — зноў бяда.

Нядаўна мне далі ў архіве КДБ чытаць прысланую з Пермі справу майго бацькі Коласа Данілы Іванавіча. У 37—38 гг. усіх сасланых-раскулачаных і тых, хто потым пойдзе на вайну, саджалі. Артыкул 58, пункты, 2, 6, 9, 11. «Контррэвалюцыйная паўстанцкая арганізацыя, створаная з палякаў і іншых спецперасяленцаў польскай разведкай». З пратаколаў допытаў відаць, што бацька мой на допытах трымаўся з годнасцю, нікога не запляміў, не зламаўся і ніякіх доказаў абвінавачанню не даў. Выходзіць, Вы, Лявон Случанін, дзякуй Богу, не адзін — не ўсе «ламаліся».

Фашызм і камунізм — аднолькавыя цацы.

Вы мяне прасілі неяк Вас суцешыць.

Мо — паразумеемся?

**Георгій КОЛАС.**

# Помнік маэстра

**На Паўночных могілках Мінска адбылося афіцыйнае адкрыццё надмагільнага помніка народнаму артысту СССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Яраславу Антонавічу Вашчану. На сціплай шэрай пліце — выява крыжа, прозвішча і даты жыцця: 19.2. 1922—3.3.1989».**

**З цёплымі словамі ўспамінаў выступілі жонка народнага артыста кандыдат мастацтвазнаўства Эмілія Шумілава, вучні і калегі Я. Вашчана па опернай сцэне Віктар Скорабагатаў, Маргарыта Ізворска-Елізар'ева, Леў Гарэлік, прафесар, дырэктар НДІ кардыялогіі Георгій Сідарэнка, загадчык аддзела Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Сцепанцоў.**

**Талент опернага дырыжора — надзвычай рэдкі талент. Што да Я. Вашчана, талент якога найярчэй праявіўся падчас яго працы ў ДАВТе оперы і балета Беларусі (1972—1989), то ён слушна стаіць у адным шэрагу з лепшымі дырыжорамі Еўропы і свету. Гэта асабліва добра відаць цяпер, калі яго ўжо няма сярод нас, калі прыгадваецца трыумфальны ўздым беларускага опернага і балетнага мастацтва ў «вашчакоўскі перыяд» — у час працы народнага артыста галоўным дырыжорам і мастацкім кіраўніком тэатра. Прыгадвалі таксама вялікі ўклад Я. Вашчана ў яго апошнюю, перадсмяротную пастаноўку, якая заслужана адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі — оперу У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха» (паводле аповесці У. Караткевіча).**

**Пра многае гаварылася каля магілы вялікага дырыжора. У тым ліку, і пра неабходнасць устаноўкі мемарыяльнай дошкі на доме, дзе ён жыў, пра перайменаванне адной з мінскіх вуліц у вуліцу Яраслава Вашчана. І зрабіць гэта, думаецца, зусім няцяжка, бо дом майстра стаіць на рагу дзвюх вуліц, назвы якіх даўно просяцца на змену, — Куйбышава і Камуністычнай...**

**В. РАГОЙША.**

**АНОНС**

# Запрашае Дом літаратара

**У снежні, як звычайна, адбудзецца шэраг цікавых мерапрыемстваў.**

**3 снежня, напрыклад, можна паглядзець тэлефільм «Ніколі я не паміраў...» Янка Купала» (аўтар сцэнарыя Г. Колас пры ўдзеле Г. Працькі і В. Скалабана, рэжысёр У. Бокун),**

**Творчы вечар паэтаў А. Каско і М. Пракаповіча пройдзе 8 снежня.**

**«У далонях маёй Беларусі» — так называецца канцэртная праграма сяброў клуба «Спадчына». На яе можна завітаць 10 снежня.**

**11 снежня ж — прэзентацыя Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.**

**Кампазітар У. Буднік з тых, хто пастаянна піша творы на вершы беларускіх паэтаў. Вечарына 16 снежня так і называецца — «Беларуская паэзія ў музыцы кампазітара Уладзіміра Будніка».**

**А 17 снежня можна адразу пазнаёміцца з дзвюма стужкамі — дакументальнай «Ушацкія вяселлі» (вытворчасць РВТА «Белвідэацэнтр», аўтар сцэнарыя Р. Барадулін, рэжысёр М. Андруковіч) і мастацкай «Маўчанне ягнят» (вытворчасць ЗША, пяць прэмій «Аскара).**

**Сакрат Яновіч, як вядома, жыве ў Беластоку, але на Беларусі чалавек зусім не чужы. 18 снежня — прэм'ера яго кнігі «Самасей», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».**

**У многім ачуняць ад нацыянальнага бяспамяцтва дапаможа вечарына, прысвечаная 600-годдзю каранацыі Вітаўта на вялікакняскі пасад. Нагадаем: урачыстасць —22 снежня.**

**«Мы толькі знаёмыя...» — гэты вечар для тых, хто любіць сцэнічнае мастацтва. Сустрэча з Л. Горцавай і персанажамі, увасобленымі ёю, — 24 снежня.**

**Гасцямі ж вечара 25 снежня стануць барды.**

**Не забудзьцеся: пачатак вечароў, сустрэч, прэзентацый — а 18 гадзіне.**

**Мерапрыемствы ж, так сказаць, рабочага плана (пасяджэнні секцыі перакладу —3 снежня, секцыі прозы — 16 снежня, секцыі паэзіі —23 снежня) пачынаюцца а 15 гадзіне.**

# НЕ ГОРШ, ЧЫМ У СТАЛІЦЫ

## Прайшла ў Гародні канферэнцыя па гісторыі царквы і культуры ВКЛ і Беларусі

ПАДОБНА НА ТОЕ, што ў некаторых аспектах свайго жыцця Беларусь ператвараецца ў сапраўдную еўрапейскую краіну. Пра гэта сведчыць тое, што не толькі сталіца дзяржавы — Менск ладзіць сур'ёзныя форумы эканамічнага, палітычнага, навуковага і культурнага характару, але і іншыя гарады Беларусі даводзяць свае здольнасці самастойна і зладжана праводзіць такія мерапрыемствы. Нагадаем музычныя фестывалі ў Полацку і Віцебску, навуковыя канферэнцыі па пытаннях гісторыі Беларусі ў Гародні. Магчыма нават, што менавіта Гародня становіцца зараз цэнтрам беларускай гістарычнай навукі. Гэта не азначае, безумоўна, што ў нас больш за ўсіх астатніх таленавітых даследчыкаў. Хутчэй трэба гаварыць аб наяўнасці ў горадзе здольных арганізатараў, сумленных і таленавітых асоб, аб жаданні маладых прадпрымальнікаў не заставацца ўбаку ад культурных працэсаў у горадзе, тым больш, што гэтае жаданне трансфармуецца ў матэрыяльную дапамогу, якая дазваляе бездакорна праводзіць канферэнцыі.

Ініцыятарам правядзення ў Гародні канферэнцый па пытаннях гісторыі Беларусі стаў дацэнт кафедры ўсеагульнай гісторыі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Д. Караў. Дзякуючы, перш за ўсё, ягоным высілкам, у Гародні за апошнія гады адбыліся тры буйныя навукова-гістарычныя канферэнцыі: 1990 г. — «Вітаўт Вялікі і яго час», 1991 г. — «Культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII — пач. XX ст.», 1992 г. — «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII—пач. XX ст.».

Пра гэтую апошнюю канферэнцыю хочацца паведаміць больш падрабязна.

Арганізатарамі гэтай навуковай сустрэчы выступілі Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі, кафедра ўсеагульнай гісторыі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы і аддзел культуры Гарадзенскага гарвыканкама. Што тычыцца фінансавага забеспячэння канферэнцыі, то варта пералічыць арганізацыі, установы, прадпрыемствы, да гэтай справы датычныя: Міністэрства культуры РБ, Гарадзенская абласная федэрацыя прафсаюзаў, абкам прафсаюзаў працаўнікоў кааператываў, прафсаюз гарадскога савета прадпрымальнікаў «Ліга», ВА «Азот», Гарадзенская тытунёвая фабрыка «Нёман», Гарадзенская універсальная біржа «Гародня-Захад», а таксама гарадзенскія банкі: «Аграпрамбанк», РКБ «Комплекс», «Гароднякамбанк», АКБ «Прамбудбанк», АКБ «Прыор-Захад», Знешне-эканамічная асацыяцыя Гарадзенскай вобласці «Нёман», ДВКА па рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры, сумесныя прадпрыемствы «Гародняполь», «Гародсоуп», «Белагарод», «Гародняскан», «Астро», «Гародтэкс», МП «Бертэль», прадстаўніцтва польскай карпарацыі «Эльмакс», фірма «Младзі», КАФ «Бацькаўшчына».

Адметнай асаблівасцю ўсіх вышэйпералічаных канферэнцый, у тым ліку і апошняй, з'яўляецца аператыўнае выданне іх матэрыялаў — зборніка «Наш радавод». На жаль, наклад невялікі — толькі 250 асобнікаў.

Канферэнцыя працавала на працягу чатырох дзён: з 28 верасня па 1 кастрычніка. Аргкамітэт запрасіў узяць удзел больш за сто навукоўцаў з васьмі краін: Беларусі, Вялікабрытаніі, Летувы, Украіны, Польшчы, Расіі, Швейцарыі, Японіі. На жаль, па розных прычынах не ўсе вучоныя здолелі прыехаць — сабралася 65 даследчыкаў, але тэзісы дакладаў усіх навукоўцаў, якія даслалі свае артыкулы, надрукаваны ў зборніку. Гэта тычыцца, перш за ўсё, вядомага беларусіста з Англіі прафесара Лонданскага універсітэта Дж. Дзінглі, японскіх вучоных кандыдата багаслоўя Масару Сато і доктара багаслоўя Кейко Сато, некаторых нашых украінскіх і расійскіх суседзяў.

Канферэнцыя пачала сваю працу пленарным пасяджэннем у памяшканні тэатра лялек. Прафесар А. Мальдзіс, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў паведаміў, што ў наступным годзе таксама ў Гародні адбудзецца міжнародная канферэнцыя «Рым IV», прысвечаная праблемам узаемадзейнасці нацыянальных і рэлігійных культур на Беларусі, Украіне, Летуве і Польшчы. Вядомы вучоны, народны дэпутат Беларусі А. Трусаў адзначыў, што традыцыі талерантнасці ў дзяржаве працягваюцца. Да прысутных таксама звярнуліся рэктар Беластоцкай вышэйшай рыма-каталіцкай семінарыі прафесар Т. Крахель, кіраўнік культурна-асветніцкага фонду «Бацькаўшчына» М. Маркевіч, галоўны каардынатар Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА па Гарадзенскай вобласці Ю. Катэнка.

Пасля пленарнага пасяджэння работа працягвалася па секцыях. Першая секцыя — «Гістарыяграфія і крыніцазнаўства». Усе выступы вучоных, якія прынялі ўдзел у працы менавіта гэтае секцыі, краналі асобныя пытанні вывучэння крыніц па гісторыі Беларусі. Так, напрыклад, супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбурзе М. Нікалаеў, грунтуючыся на цікавай знаходцы ў аддзеле рукапісаў, расказаў пра гісторыка беларускай царквы Іаана Грыгаровіча. Дацэнт Гарадзенскага універсітэта А. Нечухрын паведаміў пра ўклад выхаванцаў праваслаўнай царквы ў распрацоўку краязнаўчых пытанняў гісторыі Беларусі (II пал. XIX—XX стст.). Былі паведамленні пра беларускія бібліятэкі і архівы, пра дакументы ў маскоўскіх архівах і бібліятэках. Вельмі цікавым быў выступ вучонай з Вільні Т. Байрашаўскайтэ «Захаванасць мусульманскіх помнікаў на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю ў XIX ст.».

Другая секцыя «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага XIII—XVIII стст.» была падзелена на тры падсекцыі, першая з якіх называлася: «Царква ў кантэксце сацыяльна-палітычнага развіцця». Работа навукоўцаў у гэтай падсекцыі выклікала, бадай, найбольшую цікавасць, бо разглядаўся перыяд гісторыі, па якім, як правіла, у даследчыкаў з розных краін розныя пункты гледжання. Вельмі палемічным атрымаўся даклад Ігумена Нікана з Жыровічаў «Свяціцель Кіпрыян, мітрапаліт Літоўскі і вялебны Сергій Раданежскі. Праблема адзінства кананічнай тэрыторыі Кіеўскай мітраполіі ў 70—80 гг. XIV ст.». Асноўная думка прамоўцы: вышэйшая мэта — захаванасць адзінства царквы. З такім пунктам гледжання на гісторыю пагадзіліся далёка не ўсе прысутныя, справядліва адзначыўшы, што вышэйправедзеная мэта не здольная быць галоўнай дзеля грамадзянскай, свецкай гісторыі.

Археолаг з Менска А. Краўцэвіч падкрэсліў у сваім выступе, што штуршком для каланізацыі ўсходнімі славянамі балцкіх земляў магла паслужыць гвалтоўная хрысціянізацыя першых. Нашы продкі заснавалі гарады ў Панямонні, сельскае насельніцтва заставалася балцкім, але паступова адбывалася ягоная асіміляцыя. Навуковец лічыць, што версія пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага спачатку як балцкай дзяржавы памылковая, бо ў рэгіёне было суцэльнае дамінаванне славян, і дзяржава будавалася па ўсходнеславянскім узоры з выкарыстаннем існуючых структур. Нездарма дзяржаўнай мовай ВКЛ стала старабеларуская мова. А. Краўцэвіч пагаджаецца з гісторыкам М. Ермаловічам у тым, што Міндоўг быў запрошаны на княскі пасад у Навагрудак, а не захапіў яго.

У рабоце гэтай падсекцыі навукоўцы разглядалі розныя аспекты гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў названы перыяд: палітыка кіруючых колаў Рэчы Паспалітай у адносінах да праваслаўя ў канцы XVI ст. (Г. Васюк, Менск), становішча Украіны ў складзе княства (Н. Шаўчэнка, Нікалаеў), грамадзянін ВКЛ і рэлігія (Р. Гіркантас, Вільня), рэфармацыя ў ВКЛ (Т. Кручкоўскі, Масква). Плошча газетнага артыкула не дазваляе падрабязна спыняцца на кожным выступе. Нагадаем толькі, што ўсе іх можна прачытаць у зборніку «Наш радавод».

Плённа папрацавала другая падсекцыя па тэме «Царква — асвета, навука, грамадская думка». Быў выказаны шэраг арыгінальных ідэй і думак: выкладзеная рытуальная філасофія агню, якая прысутнічала ў старажытным кульце славян і балтаў (А. Верашчагіна, А. Гурко, Гародня), была выказана думка пра існаванне празрыстых межаў паміж канфесіямі Вялікага княства Літоўскага ў XIV—XV стст. (Э. Банёніс, Вільня), высветлена роля мецэнацтва ў развіцці беларускай культуры мінулага (Л. Іванова, Менск), паказана істотная роля рыма-каталіцкага касцёла ў развіцці адукацыі ў княстве (Т. Крахель, Беласток), прадстаўлены новыя факты з гісторыі беларуска-рускіх кніжных сувязей (Н. Чарнышова, Масква), выказана думка аб неабходнасці больш актыўных сувязей у галіне гістарычнай навукі з еўрапейскімі краінамі (М. Банькоўская, Цюрых).

Трэцяя падсекцыя — «Царква і мастацтва» прыцягнула ўвагу спецыялістаў канкрэтыкай тэм выступаў. Вузкая накіраванасць даследаванняў не падыходзіць для газетнага артыкула, таму мы зноў адсылаем чытача да зборніка «Наш радавод».

Жыццё народаў Беларусі, узровень сацыяльна-палітычнага развіцця, становішча рэлігійных арганізацый: палітычнае, эканамічнае, грамадскае; узаемаадносіны канфесій і дзяржавы, праблемы культурнага жыцця, — вось пытанні, якія абмяркоўвалі ўдзельнікі апошняй секцыі «Царква і культура народаў Беларусі (канец XVIII—пач. XX ст.)».

Канферэнцыя прайшла па-сапраўднаму творча. Прадстаўнікі розных дзяржаў і нацыянальнасцяў, розных веравызнанняў і гістарычных школ, святары і вернікі розных канфесій на працягу чатырох дзён не гулялі ў палітыку, а шукалі агульныя ці проста цывілізаваныя падыходы да паразумення ў галіне нацыянальных і міжканфесійных адносін.

У час канферэнцыі кіраўнікі секцый атрымалі багата прапаноў ад навукоўцаў. Гэтыя прапановы на заключным агульным пасяджэнні ператварыліся ў зацверджаную рэзалюцыю. Вось яе асноўныя палажэнні.

Дзеля адраджэння гістарычнай памяці народаў Беларусі ўдзельнікі канферэнцыі палічылі неабходным наступнае:

**1. Дзеля актуалізацыі гісторыка-рэлігіязнаўчых аспектаў вывучэння гісторыі ствараць нефармальныя цэнтры і як мага шырэй выкарыстоўваць магчымасці ўжо існуючых творчых калектываў, перш за ўсе Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі.**

**2. Скарынаўскаму цэнтру, музею гісторыі рэлігіі, Гарадзенскаму дзяржуніверсітэту прыняць актыўны ўдзел у правядзенні маючай адбыцца ў чэрвені наступнага года ў Гародні міжнароднай канферэнцыі «Рым IV».**

**3. Звярнуцца да Саўміна і Міністэрства культуры РБ з прапановай арганізаваць і правесці:**

**а) міжнародную сустрэчу пад дэвізам «Дыялог культур, дыялог канфесій. XX стагоддзе»;**

**б) семінар «Гістарычная памяць народаў ВКЛ і Беларусі».**

**4. Стварыць часовы творчы калектыў дзеля гістарычных даследаванняў і падрыхтоўкі «Нарысаў гісторыі хрысціянства на Беларусі». У склад гэтай адзінкі павінны ўвайсці Скарынаўскі цэнтр, музей гісторыі рэлігіі і кафедра ўсеагульнай гісторыі ГарДУ.**

**5. Надрукаваць выбраныя матэрыялы трох канферэнцый «Наш радавод» асобным выданнем альбо серыямі.**

**6. Звярнуцца ў Саўмін, Міністэрства замежных спраў, культуры і Беларускую асацыяцыю ЮНЕСКА з прапановай уключыць тэмы «Гісторыя хрысціянства на Беларусі» і «Гістарычная памяць беларусаў XIII—XX стст.» у рэгістр найбольш важных праектаў, якія курыруюцца ЮНЕСКА ў рамках праводзімага ім дзесяцігоддзя культуры.**

**Анатоль КАТОЛІКАЎ,**
ст. навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі.

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Найкарацейшы курс гісторыі КПСС: усё было фальшывым — прамовы, прагнозы, праграмы, партыя нават гімн спявала пад фанаграму.**

●

**Наступствы развалу эканомікі і вяртання да веры: жабракоў паболела, але і падаюць часцей.**

●

**Коратка пра капейку — не грошы, пра рубель — не грошы, пра чырвонец — не грошы... Што там на чарзе?**

●

**Адзін «савок» прыснiў, што апынуўся на ненаселеным востраве, і калі пераканаўся, што дапамогі ніадкуль не будзе, адгрукаў такую дачу, што пасля выратавання нават за СКВ не аддаў.**

●

**Паэт прачытаў са сцэны свой славуты верш-песню.**

**— Каго гэта мне нагадвае? — спытала жонка мужа.**

**— Еўдакімава, любая, Еўдакімава, ягоны гэта нумар!..**

**А кампазітары з паэтамі спрачаюцца, з чаго песня пачынаецца.**

●

**Любіць зямелька пот і паклоны — была ўрадлівай адкуль бы, — ды растуць у адных краях лімоны, а ў другіх бульба. Што не вельмі міласцівае да нас неба, сведчаць цэны на рынку, просяць пяць кілаграмаў беларускага хлеба за адну паўднёвую садавінку. Глядзіць дзядзька на далёкі ласунак, не крыўдуе на долю, трэба дзеткам узяць пачастунак, а заўтра ў поле...**

●

**Заблытаўся ў назвах партый і суполак, у адозвах, маніфестах, зваротах. Разумею яшчэ, чым адрозніваюцца тыя, што моляцца ў нядзелю, ад тых, што моляцца ў суботу. Але чаму ўжо не праводзяць сумесных вячорак тыя, што нарадзіліся ў панядзелак, з тымі, што нарадзіліся ў аўторак?**

●

**Кажаш, мастакі, што сілкаваліся «ад Леніна», доўжаць рэвалюцыйны кураж? А лічыш, проста прызнаць «пракарм-ленінцам», што Ільіч быў не сцяг, а фураж?**

●

**— Бачыш, матуля, як у горадзе жывём — ліфт, смеццеправод, гарачая, халодная...**

**— А дзетак ты можаш паклікаць у дом? Не можаш, бо высока? Якая ж ты бестурботная. Чаго яны вартыя, гарадскія прынады, калі дзеці ў вас без прыгляду?**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў; Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-19-65; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Нумар падпісаны ў друк 26.11.92 у 18.10.



Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12